ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 50(5232)
Субота,
5 мая
2001 года

Кошт у розніцу — 51 руб.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Уся глыбінка жыве без транспарту

Грамадскія справы закінулі нас з калегай на Пружаншчыну, а дакладней — у Шаняўскую сярэднюю школу. Выканаўшы сваю місію, мы, канешне ж, не маглі не сустрэцца з настаўнікамі гэтай утульнай, дагледжанай школкі, распытацца пра жыццё-быццё вясковых сейбітаў прыгожага, добрага і вечнага. Зайшла, натуральна, гаворка і пра маючы адбыцца з'езд.

**Святлана Аляксандраўна Якімавец, дырэктар школы:**

— Самая вострая праблема на сённяшні дзень — падвоз дзяцей у школу. Са многіх вёсак раёна вучняў падвозяць, як кажуць, са скрыпам. Яшчэ не так даўно гэта было арганізавана куды лепш. Нават у нашу школу, чаго раней не было, па суботах дзяцей не падвозяць, бо ў гэты дзень у калгасе выхадны.

Вельмі шкада, што па тэлебачанні перасталі ісці тэлеўрокі. Па гісторыі, беларускай літаратуры яны былі даволі цікавыя. У сціплых умовах сельскай школы (а матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне ўстаноў адукацыі цяпер — самі ведаеце якое) выкарыстанне ТБ давала магчымасць рабіць урок больш разнастайным па форме, інфармацыйна і эмацыянальна насычаным. Цяпер гэтага няма.

Адно з самых балючых пытанняў, пра якое шмат гаворыцца, але яно аніяк не можа вырашыцца, — нестыкоўка патрабаванняў, што прад'яўляюцца да абітурыента пры паступленні ў ВНУ, і навучальнай праграмы школы. Мы, напрыклад, працуем па базавым навучальным плане, а на ўступных экзаменах у нашых выпускнікоў пытаюцца невядома што. Лічу, што вышэйшым навучальным установам арыентавацца толькі на ліцэі, гімназіі, профільныя класы — нельга. Гэта недзяржаўны падыход.

**Фаіна Станіславаўна Шышко, намеснік па вучэбнай рабоце:**

— У нашай дзяржаве многія карыстаюцца льготамі. А вось пра настаўніка сельскай школы — забыліся. Вядома, што многія настаўнікі дабіраюцца да школы грамадскім транспартам, а часта і на перакладных, бо ў некаторыя вёскі аўтобусы не ходзяць увогуле. Калі трэба ехаць у раён на нейкую нараду, метадычнае аб'яднанне, узнікае цэлая праблема, як туды дабрацца. Я не кажу ўжо пра тое, што настаўнік за гэта плаціць са сваёй кішэні. Але ж, напрыклад, работнікі міліцыі па сваіх службовых справах ездзяць бясплатна! Хай бы нам, сельскім настаўнікам, хоць часткова кампенсавалі плату за праезд. Тады б можна было і хутчэй запоўніць вакансіі, якія ёсць у многіх сельскіх школах, і больш аператыўна знайсці замену настаўніку, што, напрыклад, захварэў.

Яшчэ праблема, але яна ўжо датычыцца навучальнага працэсу. Цяпер ад настаўніка патрабуюць, каб ён шырэй укараняў у сваю працу новыя тэхналогіі. І ў нас ёсць педагогі, якія вывучылі гэтыя тэхналогіі і карыстаюцца імі. Аднак далёка не на кожным уроку, бо ўвесь раздатачны або наглядны матэрыял прыходзіцца рабіць сваімі рукамі. Гэта вельмі цяжка, таму што ў адрозненне ад гарадскога сельскі настаўнік не мае паралельных класаў, і да ўрокаў яму прыходзіцца рыхтавацца значна больш. Да таго ж многія педагогі працуюць на паўтары, а то і на дзве стаўкі, бо, як вядома, настаўнікаў у сельскай школе не хапае. Хацелася б, канешне, каб больш было распрацовак для настаўніка, дапаможных і метадычных матэрыялаў. Напрыклад, па тым жа модульным навучанні.

**Алена Мікалаеўна Ярмашэвіч, настаўніца беларускай мовы і літаратуры:**

— Вельмі бракуе настаўніку-славесніку ілюстрацыйных матэрыялаў — рэпрадукцый, слайдаў, альбомаў, прысвечаных творчасці таго ці іншага пісьменніка. Як добра было б, напрыклад, вывучаючы Уладзіміра Караткевіча, паказаць дзецям фільм "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" ці "Дзікае паляванне караля Стаха". Гэта так прывабіла б школьнікаў да творчасці гэтага адметнага пісьменніка, абудзіла б іх цікавасць да нашага далёкага мінулага. У нас жа ў школе ёсць відэамагнітафон, але, наколькі ведаю, відэакасет з названымі фільмамі не існуе ўвогуле. Дарэчы, тыя ж самыя тэлеўрокі маглі быць проста растыражаваны на відэакасетах, каб любая школа, якая мае неабходнае абсталяванне, магла іх для сябе набыць.

**Таццяна Канстанцінаўна Кашкан, намеснік па выхаваўчай рабоце:**

— Для настаўніка пачатковых класаў па выхаваўчай рабоце выдадзены арыенцір. У ім змешчаны не толькі тэарэтычныя выкладкі, але і даюцца канкрэтныя парады, распрацоўкі, як гэта можна рэалізаваць на практыцы. Было б добра штосьці падобнае мець для сярэдняга і старэйшага звенняў школы, бо класнаму кіраўніку даводзіцца цяжка. Даплата ў яго за гэтую працу сімвалічная, а працаваць трэба шмат. Так, выданняў розных у дапамогу класнаму кіраўніку дастаткова, і сярод іх ёсць нямала цікавых. Але ўсё гэта не ў сістэме. Нешта трэба ўзяць адтуль, нешта — адтуль. Калі б быў арыенцір, было б нашмат прасцей. Адаптацыя нейкай гатовай мадэлі да мясцовых умоў не патрабуе такіх высілкаў, як распрацоўка ўласнага праекта.

Тут гаварылася ўжо пра наглядныя матэрыялы. Дадам, што калі яны ў школе і ёсць, то безнадзейна састарэлыя. І фізічна, і маральна. Пра фільмы і гаварыць не прыходзіцца, асабліва выхаваўчыя, — усе яны з застойных савецкіх часоў. Таму, калі выкарыстоўваем іх на нейкім мерапрыемстве, папярэдне праводзім растлумачальную работу сярод вучняў, каб яны адэкватна ўспрымалі ўбачанае. Пра тое, каб набыць нешта цікавае, сучаснае, застаецца толькі марыць: альбо няма грошай, альбо няма аніякага выбару.

Што ж датычыцца праблемы транспарту, то мне згадваецца вось што. Калісьці ў Прыбалтыцы настаўнік, як і міліцыянер, меў свой спецыяльны знак. Вадзіцелі дзяржаўных аўтатранспартных сродкаў, калі бачылі на дарозе чалавека з такім узнятым знакам, павінны былі (пры магчымасці) спыніцца і падвесці яго. Чаму б і нам на Беларусі не зрабіць такое? Уся ж глыбінка ў нашай краіне жыве зусім без транспарту...

**Падрыхтавала Тамара КАРОТКАЯ.**

## Тэхнічная праца — не другасны прадмет

*Мяне па-добраму ўсхваляваў артыкул майго калегі, настаўніка тэхнічнай працы сярэдняй школы № 13 Жлобіна Віталя Гузава "Як павысіць прэстыж тэхнічнай працы", змешчаны нядаўна ў "Настаўніцкай газеце". Усё, што ён выказаў у ім, надзвычай злабадзённа.*

З артыкула вынікае, што тэхнічная праца як вучэбная дысцыпліна павінна мець статус той жа матэматыкі, фізікі, хіміі.

Згодзен з аўтарам, што для таго, каб падрыхтавацца і правесці ўрок працы, ад настаўніка патрэбны вунь якія высілкі. Спашлюся на свой вопыт. Дзевятых класаў у нашай школе шэсць. Для таго, каб правесці ўрок, неабходна мець пад рукамі як мінімум 90 металічных альбо драўляных загатовак. І ўвесь гэты клопат цалкам ускладзены на выкладчыка. Паспрабуй дастаць матэрыял! За гэта табе будзе смехатворная кампенсацыя — даплата за загадванне майстэрні.

А раней жа да дысцыпліны "Тэхнічная праца" было стаўленне як да паўнавартаснага прадмета. Як ні горка, але мушу прызнацца, што нават калі ў школе будзе належным чынам абсталяваная майстэрня, удосталь матэрыялу, будзе даплата, баюся, справа не зрушыцца ў лепшы бок.

Дык у чым жа корань зла?

Мяркую, што да таго часу, пакуль мы будзем глядзець на прадмет як на нешта другараднае, не будзем унікаць у праграму курса, не будзем заклапочаны ў яе выкананні, то па-ранейшаму будзем прадаўжаць закладваць у душы, сэрцы дзяцей гэткія ж адносіны і да тэхнічнай працы. Дык чаго варты нашы высокія словы пра высакароднасць працы, пра яе мажлівасць уздзейнічаць на вучня ў выхаваўчым і пазнавальным аспектах?

Я добра ўсведамляю, што ў школе галоўнымі прадметамі застануцца матэматыка, фізіка, хімія, мовы, інфарматыка. З гэтых урокаў адміністрацыя, як правіла, не дазволіць сабе зняць вучня і прымусіць яго выконваць іншае заданне. Бо па гэтых прадметах вучні трымаюць сур'ёзныя выпускныя экзамены, а пасля — пры паступленні ў ВНУ, сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы — і ўступныя. А дзе вы сустракалі іспыты па тэхнічнай, абслуговай працы? І гэта ў той час, калі працоўнаму выхаванню імкнёмся надаць першаснае значэнне! Ці можна пасля гэтага здзіўляцца, адкуль бярэцца безліч маладых людзей, якія бадзяюцца без працы, увогуле адносяцца да яе з пагардай, а пасля папаўняюць шэрагі так званых бамжоў.

Упэўнены, што мы будзем пастаўлены перад умовай здачы нейкіх іспытаў (у старшых класах) па гэтым прадмеце. Верыцца, што пачынальнікам гэтай справы будзе (сярод рэспублік, якія ўваходзілі некалі ў склад СССР) менавіта наша краіна.

Узнятую тэму ў сваім невялічкім допісе прапаную зрабіць тэмай прынцыповай і прадметнай гаворкі на чарговым з'ездзе настаўнікаў.

**Мікалай МАТОРЫН,**
**настаўнік Бараўлянскай сярэдняй школы, кіраўнік метадычнага аб'яднання выкладчыкаў тэхнічнай працы Мінскага раёна.**

## Яшчэ раз пра бібліятэку

*Мы азнаёміліся з артыкулам "Нібыта ён ёсць, а нібыта яго і няма..." і іншымі, дзе гаворыцца пра работу і аплату працы школьных бібліятэкараў, і хочам таксама выказацца па ўзнятых там праблемах.*

Пасада школьных бібліятэкараў была ўведзена Міністэрствам асветы ў 1978 годзе, але, па сутнасці, мы не адносімся ні да сістэмы адукацыі, ні да сістэмы культуры. Хоць існуе "Палажэнне аб бібліятэцы агульнаадукацыйнай школы Рэспублікі Беларусь", якое зацверджана Міністэрствам адукацыі краіны за № 768, дзе сказана, што школьная бібліятэка з'яўляецца структурным падраздзяленнем школы, закліканым садзейнічаць працэсу навучання і выхавання вучняў, павышэнню кваліфікацыі работнікаў школы, а таксама цэнтрам распаўсюджання ведаў, духоўных і інтэлектуальных узаемінаў. Асноўная наша функцыя — дапамога навучальнаму і выхаваўчаму працэсу, што мы і робім (абслугоўванне вучняў, настаўнікаў, правядзенне індывідуальных і масавых мерапрыемстваў, правядзенне ўрокаў ББЗ, улік і справаздачнасць выданняў, што паступаюць у бібліятэку, замена ўрокаў па прадметах).

Акрамя фонду мастацкай літаратуры, метадычных і перыядычных выданняў у школьных бібліятэках ёсць фонд вучэбнай літаратуры (у вялікіх бібліятэках ён дасягае 30 тысяч экзэмпляраў, і працаваць з ім трэба штодзённа, а атрымліваем за гэта 45000 рублёў).

Мы не маем метадычнага дня пры 40-гадзінным рабочым тыдні з дзецьмі ў школе, не атрымліваем грашовай дапамогі на метадычную і перыядычную літаратуру.

З 1993 года ў школах уведзена пасада загадчыка бібліятэкі, а кваліфікацыйная катэгорыя знята. У аддзеле працы і заработнай платы Міністэрства адукацыі нам патлумачылі, што службовыя аклады загадчыкаў школьных бібліятэк, згодна з пастановай Мінпрацы, вызначаюцца аднолькава — па 14-м тарыфным разрадзе. І для іх надбаўкі за катэгорыю не прызначаны. Чаму? Маючы вышэйшую спецыяльную адукацыю, загадчык бібліятэкі атрымлівае менш за бібліятэкара II катэгорыі.

Працуючы ў школе з дзецьмі, мы абдзелены і водпускам (з 2000 года загадчык бібліятэкі мае водпуск 32 каляндарныя дні, а бібліятэкар — 30).

Хочам задаць жыццёва важнае пытанне: ці можна праіснаваць на адну стаўку бібліятэкара (не маючы нават гуртка) у 44000 рублёў? Просім разгледзець нашы пытанні на з'ездзе і прыняць адпаведнае рашэнне.

З павагай — бібліятэчныя работнікі Клецкага раёна Мінскай вобласці:

**Л.ФІЛІМОНАВА,**
**С.ГОРБАЧ,**
**Л.СЫМАН і іншыя.**
**(Усяго 15 подпісаў).**

## "Шкадую дзяцей..."

**Аляксандра Мікалаеўна Варава, дырэктар Ладзеніцкай базавай школы Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці.**

— Я шкадую дзяцей. Хацелася б неяк перагледзець школьную нагрузку. Адразу пасля ўрокаў звычайна пачынаюць работу школьныя гурткі, секцыі. Лічу, што вучням пасля класных заняткаў трэба даць нейкую паўзу, каб можна было схадзіць дадому, крыху адпачыць, нарэшце, пабыць сам насам. А потым можна і ў гурток прыйсці, зноў у школу.

Мы ў сябе паспрабавалі адкрыць школу і ўвечары — прыйшлі і дзеці, і бацькі, вясковая моладзь. З задавальненнем бегалі па спартыўнай зале, гулялі ў тэніс... Вясной жа надышла пара брацца за адвечную сялянскую працу на зямлі і настаўнікам, таму школу, на жаль, прыходзіцца зачыняць. Але вопыт узаемадзеяння дарослых і дзяцей, якія, адпачыўшы дома, з задавальненнем прыходзяць у школу, неабходна падтрымліваць.

**Падрыхтавала Вольга ДУБОВІК.**



Наташа Навуменка (на здымку) вучыцца ў дзесятым класе віцебскай сярэдняй школы №39 і займаецца ў школе мастацтваў №3 цэнтра эстэтычнага выхавання "Маладзік". Яна неаднаразова ўдзельнічала ў пленэрах імя Ільі Рэпіна і Марка Шагала, была прызёрам выстаў "На парозе трэцяга тысячагоддзя", "Я малюю мадонну" і іншых. Рашэннем спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі ёй прызначана спецыяльная прэмія.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА.

5 мая — Дзень друку

## Са святам!

Шаноўныя сябры!

Дэпутаты — члены Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе сардэчна віншуюць вас, калектыў рэдакцыі "Настаўніцкай газеты", з нагоды прафесійнага свята — Дня друку. Дзякуючы вашай самаадданай творчай працы, высокаму прафесіяналізму і таленту "Настаўніцкая газета" стала трыбунай перадавой педагагічнай думкі, своеасаблівым метадыстам для педагогаў, выкладчыкаў, кіраўнікоў навучальных устаноў.

У гэты ўрачысты дзень выказваем глыбокае і шчырае пачуццё ўдзячнасці за вашу стваральную працу, скіраваную на развіццё і ўдасканаленне адукацыі на Беларусі. Жадаем усім вам моцнага здароўя, бадзёрага настрою, новых творчых поспехаў і дасягненняў, шчасця і дабрабыту.

**І.КАТЛЯРОЎ,**
**старшыня Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе.**

"Залатое пяро"

## Віншуем з узнагародай!

На працягу некалькіх гадоў Беларускі саюз журналістаў (БСЖ) напярэдадні Дня друку ўшаноўвае сваёй вышэйшай адзнакай — прэміяй "Залатое пяро" — лепшых супрацоўнікаў газет і часопісаў краіны, радыё і тэлебачання.

Верным гэтай традыцыі Беларускі саюз журналістаў быў і сёлета. На сумесным пасяджэнні яго сакратарыята і Камітэта па прэміях, які ўзначальвае вядомы тэарэтык і практык айчыннай журналістыкі прафесар Барыс Стральцоў, вырашана было прысудзіць прэмію БСЖ "Залатое пяро" за лепшыя журналісцкія работы 2000 года з уручэннем дыплома лаўрэата і грашовага ўзнагароджання (у ліку групы журналістаў іншых выданняў, радыё і тэлебачання) за цыкл публіцыстычных артыкулаў і нарысаў нашаму калегу — Алегу Куліцкаму.

Калектыў "Настаўніцкай газеты" лічыць, што прэмія і лаўрэацтва, якімі адзначаны наш калега, адначасова з'яўляюцца таксама і адзнакай працы выдання.

Жадаем Вам, Алег Мечыслававіч, і надалей творчага журналісцкага плёну, сардэчна віншуем з заслужанай узнагародай.

## English Tenses

У школы Беларусі рассылаецца камплект табліц пад гэтай агульнай назвай. Але большасці настаўнікаў англійскай мовы гэты дапаможнік яшчэ невядомы. Ён быў разгледжаны і адобраны Метадычнай камісіяй Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, якое даручыла Цэнтру вучэбнай кнігі і сродкаў навучання даць аб ім інфармацыю па Беларусі. Дапаможнік мае эксперыментальны характар, бо ў ім рэалізаваны некаторыя нетрадыцыйныя метадычныя падыходы і ідэі. Табліцы рассылаюцца аўтарам, каб пазбавіць школы ад лішніх цэнавых накрутак у магазінах і наладзіць кантакт аўтара з настаўнікамі.

Гутаркі аўтара з настаўнікамі паказалі, што яны часта не могуць пераадолець педагагічныя стэрэатыпы мінулых гадоў, не ўнікаюць у спецыфіку дадзенага дапаможніка. Былыя ж табліцы складаліся проста з прыкладаў, якія дапамагалі настаўніку тлумачыць новую тэму па граматыцы.

Камплект табліц English Tenses — гэта перш за ўсё **моўны трэнажор**!

Аўтар жадае сваім калегам вялікіх поспехаў у нашай такой важнай і цікавай рабоце і чакае ад іх любой інфармацыі пра свой дапаможнік!

**Аляксей УДАЛЬЕЎ,**
**кандыдат педагагічных навук.**



Канферэнцыі

## Вопыт лепшых — набытак усіх

*У Мінскім гарадскім інстытуце ўдасканалення настаўнікаў (МГІУН) адбылася навукова-практычная канферэнцыя на тэму "Сучасныя адукацыйныя тэхналогіі як сродак павышэння якасці адукацыі". Канферэнцыя прайшла ў межах аднайменнай гарадской педагагічнай выставы і з'яўляецца адным з найбольш важных мерапрыемстваў у сістэме работы інстытута па гэтай праблеме.*

На працягу некалькіх апошніх год МГІУН вядзе шырокае азнаямленне педагогаў сталіцы з інавацыямі ў галіне адукацыйных тэхналогій, садзейнічае іх асваенню і ўкараненню ў адукацыйна-выхаваўчы працэс.

Сёння ў шэрагу педагагічных калектываў ужо выпрацаваны механізм апрабацыі і ўкаранення новых тэхналогій навучання.

Напрыклад, у педагагічнай гімназіі № 3, школах №№ 32, 71, 104, 177 укараняецца Дальтон-тэхналогія; у гімназіі № 2, школах №№ 74, 177, 211 і многіх іншых — модульная; у гімназіі № 3 — тэхналогія праектнага навучання; у педагагічнай гімназіі № 2, школах №№ 56, 63, 70, 84, 152, 164, 191, 196 — развіццёвае навучанне па сістэме Эльконіна-Давыдава.

Рэформа адукацыі паставіла перад педагагічнай грамадскасцю шмат задач, рашэнне якіх залежыць не толькі ад распрацоўкі новых адукацыйных планаў, праграм, падручнікаў. Галоўная праблема, на думку Н.А.Крыловай, дырэктара ГІУН, — гэта псіхалогія настаўніка. "Мы ўсё яшчэ досыць аўтарытарныя асобы, — зазначыла яна, — нам не хапае талерантнасці. Але змены ў педагагічным мысленні ўжо можна назіраць. Цяпер нашы педагогі бачаць сваю ролю не ў насаджэнні ведаў, а ў фарміраванні цікавасці да іх здабывання. У сталічных школах сёння працуе шмат настаўнікаў-пенсіянераў. І, што цікава, яны часта аказваюцца нават больш мабільнымі, хутчэй уключаюцца ў інавацыйныя працэсы, чым маладзейшыя педагогі. Шмат пажылых настаўнікаў здаюць экзамены на вышэйшую катэгорыю... Так што змены ў свядомасці адбываюцца".

Гэтым зменам, пераадоленню інертнасці, стэрэатыпаў педагагічнага мыслення садзейнічаюць і гарадскія педагагічныя выставы, што ладзіць МГІУН, і творчыя сустрэчы педагогаў, "круглыя сталы", канферэнцыі, шырокі абмен вопытам павышэння якасці адукацыі, які праходзіць у межах гэтых выстаў. Дарэчы, выстава "Сучасныя адукацыйныя тэхналогіі як сродак павышэння якасці адукацыі" будзе доўжыцца да чэрвеня. З яе матэрыяламі можа азнаёміцца кожны жадаючы, яе дзверы адчынены як для асобных педагогаў, так і для педкалектываў.

**Святлана СУБОЦІНА.**

Конкурсы

## Фантазіі не было межаў

*У мінскім Палацы дзяцей і моладзі напрыканцы красавіка прайшоў II гарадскі конкурс на лепшае мерапрыемства па прававым выхаванні і прафілактыцы злачыннасці сярод непаўналетніх. Яго арганізатары — гарадское ўпраўленне адукацыі, камісія па справах непаўналетніх, аддзел па справах моладзі Мінгарвыканкама і Палац дзяцей і моладзі.*

Галоўная мэта конкурсу — прафілактыка правапарушэнняў і злачынстваў сярод непаўналетніх. А праводзіўся ён у два этапы. І этап (унутрыраённы): з кастрычніка 2000 года па сакавік 2001 года. Раённымі журы ацэньваліся конкурсныя мерапрыемствы (цыклы мерапрыемстваў), якія праводзіліся ў школах, ПТВ, раённых пазашкольных установах. II этап (гарадскі): красавік 2001 года. Гарадскім журы ацэньваліся лепшыя мерапрыемствы ад кожнага раёна.

У выніку стараннага адбору на першых двух этапах лідзіравалі школы № 25, 53, 80, 166, 184, школа-інтэрнат № 3, гімназія № 1 імя Ф.Скарыны.

Фантазіі дзяцей пры раскрыцці зададзенай тэмы не было межаў. Кожны з раёнаў па-свойму падышоў да вырашэння гэтай праблемы: Савецкі і Першамайскі раёны правялі мерапрыемствы ў форме казкі; Партызанскі раён паказаў гісторыю жыцця падлетка; Маскоўскі раён выбраў форму пародыі; Цэнтральны, Заводскі і Ленінскі раёны паказалі конкурсныя пазнавальныя праграмы.

Паводзіны дзяцей вымушаюць сур'ёзнага падыходу да названай праблемы. І гэта не дзіўна, бо яна ж можа закрануць кожнага з нас. Таму выдатнае веданне кодэкса аб правах дзіцяці, якое паказвалі вучні, — зусім не лішняя інфармацыйная нагрузка для іх.

Нялёгка было кампетэнтнаму журы вызначыць пераможцаў, але ўсё ж такі яны былі названы. Першае месца заняла гімназія № 1 імя Ф.Скарыны (Ленінскі раён), другое — сярэдняя школа № 25 (Заводскі раён), трэцяе — школа № 80 (Маскоўскі раён).

Вучні былі ўзнагароджаны ганаровымі граматамі і каштоўнымі прызамі. І арганізатары, і ўдзельнікі конкурсу сышліся ў тым, што веды, атрыманыя дзецьмі, дапамогуць ім знайсці выйсце з любой непрадбачанай сітуацыі, якая можа здарыцца ў іх жыцці.

**Алена ГАЛУЗА.**

Весткі з Бялыніцкага раёна

### Змястоўны семінар

*Вішоўская сярэдняя школа, размешчаная ў дыхтоўным прасторным будынку, з'яўляецца адной з лепшых у раёне сярод аднатыпных школ. Больш шасцісот вучняў тут займаецца ў адну змену. Наяўнасці і стану матэрыяльнай вучэбнай базы школы, па сённяшніх мерках, можна толькі пазайздросціць. Ёсць абсталяваны камп'ютэрны клас, прасторная фізкультурная зала, сталоўка з сучаснай кухняй і многае іншае.*

З мэтай распаўсюджвання і ўкаранення перадавога вопыту работы вішоўскіх педагогаў аддзел адукацыі райвыканкама правёў тут аднадзённы семінар-практыкум на тэму "Стварэнне ўмоў для развіцця інтарэсаў і здольнасцей вучняў". На семінары прысутнічалі кіраўнікі базавых і сярэдніх школ, іх намеснікі і супрацоўнікі раённага аддзела адукацыі.

Семінар фактычна з'явіўся справаздачай педагогаў і кіраўнікоў школы перад гасцямі аб ужо зробленым на педагагічнай ніве і атрыманых станоўчых выніках. Змястоўны даклад аб гэтым зрабіла дырэктар Вішоўскай сярэдняй школы К.М.Зайцава. Дарэчы, Кацярына Міхайлаўна пачынала свой працоўны шлях менавіта ў гэтай школе на пасадзе старшай піянерважатай і пасля заканчэння вучобы на завочным аддзяленні факультэта замежных моў дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка прайшла па ўсіх ступенях іерархічнай лесвіцы ажно да пасады дырэктара школы. Усе выкладкі, зробленыя ў дакладзе К.М.Зайцавай, увачавідкі былі падмацаваны фактычнымі матэрыяламі.

Удзельнікі семінара наведалі ўрокі і спецкурсы, якія правялі з вучнямі старшых класаў вопытныя педагогі К.Г.Палуда, А.А.Лосева, В.У.Думаронак. Не засталіся па-за ўвагай гасцей школы фрагменты курсаў і факультатываў, дзе кіраўнікамі паспяхова працуюць Г.Г.Канцавая, Т.М.Кулакоўская, В.П.Купава, І.У.Гарбанценкава, В.А.Панцялеева, П.А.Князева.

Увогуле семінар-практыкум аказаўся цікавым, пазнавальным, карысным.

### Першыя ў вобласці

*Нядаўна ў Магілёве адбыліся абласныя спаборніцтвы па настольным тэнісе сярод юнакоў і дзяўчат сельскіх раёнаў вобласці. Гульні праводзіліся ў адпаведнасці з праграмай абласных алімпійскіх дзён.*

Ва ўпартай спартыўнай барацьбе бялыніцкая зборная каманда ў агульнакамандным заліку ўпэўнена заняла ганаровае першае месца. У саставе зборнай каманды былі вучні Старасельскай сярэдняй школы і СПТВ-217. Юных тэнісістаў да спаборніцтваў падрыхтавалі настаўнікі фізкультуры адпаведна П.В.Траццякоў і А.В.Ржэўцкі.

Сярод удзельнікаў зборнай каманды юных тэнісістаў асабліва вызначаліся Аляксандр Касціцкі, Віктар Чайкоў і Марына Вус. У сваёй узроставай групе яны занялі адпаведна першае, другое і трэцяе месцы.

**Іван СІДАРЭНКА.**



Міхаіл Новікаў з дзяцінства марыў стаць настаўнікам, але жыццё склалася так, што замест педінстытута паступіў вучыцца ў сярэднюю міліцэйскую школу. Стаўшы афіцэрам міліцыі, ён ужо некалькі год з'яўляецца участковым інспектарам Забалацкага сельсавета. На новым узроўні ўсталяваў са школай цесныя сувязі. Штомесячна праводзіць гутаркі з вучнямі па правазнаўству, адказвае на ўсе пытанні школьнікаў, якія іх цікавяць, знаёміць з правіламі грамадскай бяспекі, з мерамі, якія прымаюцца да падлеткаў-правапарушальнікаў. Ён часта наведвае праблемныя сем'і, гутарыць з бацькамі цяжкіх падлеткаў. Ён заўсёды жаданы госць у Хадасоўскай сярэдняй школе.

**Уладзімір БАСЬКО.**

НА ЗДЫМКУ: вельмі няпростую размову вядзе Міхаіл Новікаў з вучнямі гэтай школы, якія праштрафіліся.

**Фота аўтара.**

Падлетак і закон

# Гісторыя — за "дзіцячыя" суды

***Ва ўсе часы праблемы маладога пакалення турбавалі грамадства. На працягу апошніх дзесяцігоддзяў асаблівая ўвага надаецца пошуку падыходаў у выкараненні дзіцячай злачыннасці ці, інакш кажучы, адпаведнага стаўлення грамадства да непаўналетніх, якія пад уплывам тых ці іншых фактараў здзяйсняюць учынкі, якія парушаюць усталяваныя ў краіне законы.***

У Рэспубліцы Беларусь збор статыстычных даных крымінальна караемых учынкаў сярод асоб да 18 гадоў пачаты з 1992 года. Аналіз атрыманых лічбаў паказвае, што за 9 гадоў стан, дынаміка і структура злачыннасці непаўналетніх не маюць дакладна выражанай тэндэнцыі. Так, за перыяд з 1992 і да 2000 года колькасць зарэгістраваных злачынстваў, здзейсненых непаўналетнімі і пры іх саўдзельніцтве, вырасла на 7,2 працэнта. Аднак з 1996 года адзначаецца стабілізацыя і нават некаторая тэндэнцыя да паніжэння — у 2000 годзе зарэгістравана злачынстваў непаўналетніх на 3,7 працэнта меней, чым у папярэднім, 1999. Але трэба адзначыць змены ў структуры злачынных дзеянняў непаўналетніх — гэта ўзмацненне агрэсіўнасці, дзёрзкасці і цынізму, павышэнне крымінальнай актыўнасці і рост цяжкіх злачынстваў. Сусветны вопыт па папярэджанні і барацьбе са злачыннасцю непаўналетніх, а таксама ў галіне абароны правоў і законных інтарэсаў дзяцей паказвае, што найлепшыя вынікі дасягаюцца ў тых краінах, дзе арганізавана праца спецыялізаванага правасуддзя ў дачыненні да непаўналетніх — ювенальная юстыцыя ("ювенальны", ад лац. juvenilis — юны, непалаваспелы.).

### Адказнасць непаўналетніх: ад рымлян і да нашых дзён

Сістэма спецыялізаванага правасуддзя па справах непаўналетніх мае стогадовую гісторыю. Але асаблівае стаўленне да непаўналетніх у праве з'явілася значна раней. Так, яшчэ рымскае права, адабраўшы з бацькоўскай кампетэнцыі вырашэнне пытанняў вінаватасці і пакарання непаўналетніх, вызначыла для іх асаблівы парадак адказнасці. Гэта праявілася і ва ўстанаўленні ўзроставых тэрмінаў безумоўна неўмяняльных (да 7 гадоў), умоўна ўмяняльных (з 7 да 14 гадоў) і ўмяняльных (старэйшых за 14 гадоў), калі дзеці маглі поўнасцю ці часткова пазбаўляцца адказнасці. Прычым да асобаў ва ўзросце ад 14 да 25 гадоў выкарыстоўваліся паменшаныя меры пакарання ў параўнанні са старэйшай групай. Трэба адзначыць і той факт, што ў судовым пасяджэнні замест дзіцяці ўдзельнічаў яго законны прадстаўнік. Але ўсіх гэтых правілаў маглі і не прытрымлівацца, калі малалетні здзейсніў цяжкае злачынства. Бо лічылася, што зрабіць такі ўчынак можна толькі са злосці, ці, як бы сказалі цяпер юрысты, наўмысна.

Уплыў рымскага права быў настолькі вялікім, што еўрапейскія дзяржавы (Францыя, Германія, Італія, Англія і іншыя) у IX — XI стагоддзях зафіксавалі ў сваіх нарматыўных актах прынцып слабейшага пакарання непаўналетняга. Але падчас інквізіцыі падлеткаў у асобую групу не выдзялялі (хоць існавалі законы, якія патрабавалі падобных адносін) і выкарыстоўвалі да іх увесь спектр пакаранняў і прымянялі да дарослых.

На тэрыторыі Беларусі ўпершыню ўзрост умяняльнасці (7 гадоў) указаны ў Судзебніку Казіміра Ягелончыка (1468 год). Статуты Вялікага княства Літоўскага (1529, 1566 і 1588 гадоў) развілі раней дзеючыя на тэрыторыі краіны прынцыпы і вызначылі мяжу дарослосці для хлопцаў у васемнаццаць гадоў, а для дзяўчат— у пятнаццаць. На жаль, у расійскім заканадаўстве да XVII стагоддзя не сустракаюцца заканадаўча прапісаныя ўказанні на спецыфічнае стаўленне правасуддзя да непаўналетніх. Істотным зрухам стаў указ Екацярыны II ад 1765 года, які вызначаў парадак адказнасці малалетніх злачынцаў: да 10 гадоў дзеці лічыліся неўмяняльнымі і ў якасці пакарання аддаваліся бацькам, а да дзяцей ва ўзросце ад 10 да 17 гадоў прадугледжвалася выкарыстоўваць крыху мякчэйшае пакаранне. Гэты ўказ нават адкрыта не друкаваўся, каб не спакушаць дарослых. У гэты ж час у заканадаўствах заходнееўрапейскіх краін уводзіцца паняцце "разуменне здзейсненага", якое знаходзіцца ў прамой залежнасці ад узросту і вядзе да выкарыстання адпаведных мер адказнасці. Напрыклад, у крымінальным кодэксе Нарвегіі ў XVIII стагоддзі ў дарослага рабаўніка за крадзёж адсякалі абедзве рукі, а ў малалетняга — толькі адну.

Наступная рэформа ў Расіі (1864 года) патрабавала перадаваць усе справы непаўналетніх "сумленным" судам, якія мусілі кіравацца пры іх разглядзе чалавекалюбствам і павагай. На тэрыторыі Беларусі паяўляюцца таксама спецыяльныя "сіроцкія" суды, якія займаюцца апякунскімі справамі ўдоў і малалетніх сірот.

Ідэя перадачы спраў дзяцей-беспрытульнікаў і правапарушальнікаў асобым установам пранікла ў ЗША з Аўстраліі напрыканцы XIX — пачатку XX стагоддзя. Глеба для выкарыстання новых падыходаў тут была падрыхтавана. Ужо з сярэдзіны XIX ст. пры разглядзе справы маладога злачынцы ў судзе прысутнічалі добраахвотнікі, якія бралі непаўналетняга пад нагляд, калі яго выпраўленне было мажліва без накіравання ў папраўчую ўстанову. Актыўны ўдзел грамадскасці быў прадыктаваны немажлівасцю далейшага прымірэння з павелічэннем колькасці дзяцей-рэцыдывістаў і жорсткасцю прызначаемых непаўналетніх пакаранняў. Абурэнне выклікала і прыцягненне ў некаторых штатах да адказнасці дзяцей з 6 гадоў, што прыводзіла да замоўчвання злачынстваў малалетніх і пакідання іх у тых умовах, якія пасрыялі ўчынку. Таму ў штаце Ілінойс у 1899 годзе адкрыўся першы "дзіцячы" ў свеце суд. Мэта суда для непаўналетніх заключалася ў тым, каб адшукаць найлепшае рашэнне праблем як самога падлетка, так і грамадства. Пачатковы этап развіцця такіх судоў выявіўся ў патрабаванні спецыялізацыі правасуддзя для непаўналетніх падсудных і ў некаторым спрашчэнні судаводства. У гэты час (пачатак XX ст.) новапрынятыя законы і правілы ўсталёўвалі неабходнасць слухання спраў непаўналетніх у асобныя дні і ў асобных памяшканнях, асобна ад спраў дарослых і асобнымі, добра падрыхтаванымі суддзямі.

У кантынентальную Еўропу ідэя спецыялізацыі правасуддзя пранікла са Злучаных Штатаў крыху пазней. Так, "дзіцячыя" суды былі адкрыты ў Вялікабрытаніі і Італіі ў 1905, у Расіі — у 1910, у Францыі і Бельгіі — у 1912, у Іспаніі — у 1918, у Нідэрландах — 1921... У 1931 годзе Ліга Нацый канстатавала, што такія суды існуюць ужо ў 30 краінах свету.

Суд, займаючы цэнтральнае месца, канцэнтраваў у сабе ўсё, што датычылася маладога пакалення, якое мела патрэбу ў дапамозе (дзяцей, пакінутых без бацькоў, ахвяраў жорсткага абыходжання, злачынцаў і г.д.). Галоўнай мэтай яго дзейнасці было папярэджанне злачынстваў сярод тых дзяцей, якія жылі ў неспрыяльных умовах, і сярод тых, хто ўжо здзейсніў злачынства. Таму на першае месца выходзілі мерапрыемствы па нейтралізацыі асяроддзя, акаляючага непаўналетняга. Асноўны вынік працы "дзіцячых" судоў у ЗША і Еўропе — змяншэнне колькасці рэцыдываў сярод непаўналетніх.

Расійская імперыя таксама не стаяла на месцы, і ў 1897 годзе быў распрацаваны праект закона "Аб адказнасці малалетніх і непаўналетніх злачынцаў", дзе прадугледжвалася змяненне характару і працэдуры суда над непаўналетнімі. Вывучэнне станоўчага вопыту Заходняй Еўропы і ЗША прывяло да стварэння ў Пецярбурзе Камісіі па ўкараненні ў горадзе асобага суда для непаўналетніх. У студзені 1910 года першы "дзіцячы" суд быў урачыста адкрыты ў асобным памяшканні.

Гэты суд разглядаў справы аб правіннасцях непаўналетніх і справы, дзе непаўналетні быў аб'ектам учынкаў (нанясенне пабояў, прымушэнне да жабрацтва, распусты і г.д.). Пры судзе знаходзіліся пяць штатных папячыцеляў і яшчэ 50 чалавек выконвалі функцыі папячыцеляў бясплатна. Пры паступленні справы ў суд яны былі абавязаны тэрмінова сабраць даныя пра непаўналетніх — даведацца аб умовах жыцця, прычынах учынку — і зрабіць даклад суддзі. Абавязковым быў і ўдзел такога папячыцеля пры непасрэдным разборы справы. Так, у часопісе "Турэмны веснік" (1911 г.) адзначалася, што калі суд не мог апраўдаць малалетняга правапарушальніка, то справу адкладвалі на нявызначаны тэрмін, на працягу якога апошні знаходзіўся пад наглядам папячыцеля і бацькоў. Пры добрых паводзінах дзіцяці справа гэтым і абмяжоўвалася, пры благіх — яго змяшчалі ў выпраўленчы прытулак на некаторы час для папярэдняга заключэння, у якім папячыцель (для дзяўчынак — папячыцельніца) працягваў апякаць непаўналетняга. Калі апошні за гэты час выпраўляўся, яго вярталі да бацькоў, калі не — пакідалі ў прытулку. Да 1913 года спецыялізаваныя "дзіцячыя" суды адкрыліся ў Маскве, Харкаве, Варшаве. Рабіліся спробы стварыць іх у Мінску і Магілёве, але першая сусветная вайна перашкодзіла гэтаму.

У 1917 годзе "дзіцячыя" суды ў Расіі былі ліквідаваны. Замест іх у 1918 годзе была арганізавана Камісія па справах непаўналетніх, якая мела права разглядаць усе справы дзяцей ва ўзросце да 16 гадоў і складалася з педагога, лекара і суддзі. Пазней, на кароткі перыяд, у СССР суды былі адноўлены, але са зменамі ў горшы бок у параўнанні з тымі, якія дзейнічалі да рэвалюцыі. Асабліва моцны ўдар па ювенальным правасуддзі ў СССР быў нанесены ў 1935 годзе, калі такія суды былі канчаткова ліквідаваны і ўведзена крымінальная адказнасць пачынаючы з 12 гадоў.

### "Сямейныя" суды і ўзнаўляльнае правасуддзе ў іншых краінах

Вынікам працы вучоных і практыкаў у іншых краінах свету стала стварэнне "сямейнага" суда ў Японіі ў 1947-1948 гадах, які меў на мэце замяніць крымінальны суд. Ідэя арганізацыі такіх судоў узнікла з-за абмежаванасці дзеяння крымінальнай судовай сістэмы, асабліва калі размова ішла не пра выкананне пакарання, а пра абарону правоў дзяцей і падлеткаў, пра папячыцельскі нагляд і кантроль над імі. Сёння "сямейныя" суды стабільна дзейнічаюць у Італіі, Швейцарыі і іншых краінах. У іх кампетэнцыю ўваходзіць разгляд злачынстваў і правапарушэнняў непаўналетніх, злачынстваў дарослых, якія нанеслі шкоду дзецям, і ўвесь комплекс пытанняў сямейнага права. У дадатак яны здзяйсняюць нагляд і папяцыцельства над непаўналетнімі, іх навучаннем у школе, паводзінамі, аздараўленнем сямейнай абстаноўкі і часцей за ўсё разглядаюць усе справы дзяцей да 16 гадоў. Калі ж непаўналетні здзяйсняе цяжкае злачынства ва ўзросце, старэйшым за 16 гадоў, то яго справу могуць перадаць агульнаму крымінальнаму суду.

У чым жа асаблівасць "сямейных" судоў? А ў тым, што яны пераважна маюць грамадзянска-прававую юрысдыкцыю і імкнуцца перш-наперш захаваць сям'ю, у якой непаўналетні мае патрэбу і дзе павінен жыць як асоба ў нармальных умовах і ў згодзе з бацькамі.

Дзейнічаюць у некаторых краінах (напрыклад, у Аўстрыі) "апякунскія" суды як разнавіднасць "сямейнага" суда. Яны распаўсюджваюць сваю юрысдыкцыю на непаўналетніх да 21 года, прымяняючы да правапарушальнікаў выхаваўчыя меры, а ў дачыненні да асоб, якім неабходна абарона, — меры аховы і папячыцельства. Вырашаюць яны таксама і пытанні канфліктаў паміж бацькамі. Але справы непаўналетніх злачынцаў, якія здзейснілі сур'ёзны крымінальны ўчынак, аднесены да кампетэнцыі спецыяльных судоў па справах непаўналетніх.

* * *

Падчас рэформы савецкага крымінальнага заканадаўства (1959 — 1961) рабіліся спробы стварыць нанава мадэль правасуддзя ў дачыненні да непаўналетніх. Але крымінальны закон і праваприменяльная практыка, разглядаючы непаўналетніх як асобую групу, якая патрабуе самастойнай увагі, а часам і нетрадыцыйных рашэнняў, так і не адышлі ад агульнакрымінальнага правасуддзя і не набылі сваіх спецыфічных рыс.

* * *

Нягледзячы на стогадовы вопыт працы ювенальных судоў, сістэма правасуддзя па справах непаўналетніх застаецца адкрытай і рэфармуецца. Прычына няспынных змен мадэлі ювенальнай юстыцыі заключаецца ў пастаянным пошуку больш эфектыўных сродкаў кантролю за злачыннасцю непаўналетніх і інструментаў абароны яго правоў.

У сярэдзіне XX стагоддзя асноўная праца з непаўналетнімі будавалася на індывідуалізацыі абыходжання (прымяненне да злачынцы псіхолага-педагагічна-медыцынскіх мер). Распрацоўваліся цэлыя праграмы, якія, як паказала практыка, неслі выгоды толькі для маладых злачынцаў і нічога ад іх не патрабавалі. Ухіл рабіўся не на ўсталяванне мер адказнасці, а на выбар адэкватных мер дапамогі. Але ідэя індывідуалізацыі пакарання нават не спрабавала данесці да падлетка, што ён нанёс шкоду і павінен нешта зрабіць, каб кампенсаваць страты ахвяры. У выніку ўзнікла цікавасць да так званага ўзнаўляльнага правасуддзя. Мэта яго — пакрыццё страт, прычыненых ахвярам, прызнанне правапарушальнікам шкоды, нанесенай злачынствам, і прымірэнне паміж ахвярай, злачынцам і грамадствам, у якім яны жывуць. Акцэнт узнаўляльнага правасуддзя робіцца на кампенсаванні ўрону і ўрэгуляванні канфліктаў, а не на пакаранні злачынцаў. Рухомасць адносін да ювенальнай юстыцыі асабліва заўважна ў ЗША, дзе ад яе ўзнеслага ўспрыняцця на пачатку XX стагоддзя прыйшлі да частковай ліквідацыі спецыяльных судоў для непаўналетніх.

### А што ў нас?

У сучаснай Беларусі правасуддзя па справах непаўналетніх як самастойнай падсістэмы агульнага правасуддзя не існуе. Але новае заканадаўства ўтрымлівае комплекс спецыяльных норм, якія прадугледжваюць больш высокі ўзровень юрыдычнай абароны правоў і інтарэсаў непаўналетніх правапарушальнікаў, замацоўвае палажэнні аб пераважнасці выкарыстання мер выхаваўчага характару і асаблівага рэжыму пры выкананні пакаранняў. Трэба адзначыць, што падмурак для стварэння спецыялізаванай юстыцыі для непаўналетніх у рэспубліцы закладзены. Так, у Крымінальным кодэксе ў асобны раздзел, а ў Крымінальна-працэсуальным — у главу вынесены асаблівасці крымінальнай адказнасці асоб, якія здзейснілі злачынствы ва ўзросце да 18 гадоў, і выкананні па іх справах. Таксама мажлівасць стварэння судоў для непаўналетніх закладзена ў Канцэпцыі судова-прававой рэформы (прынята ў 1992 годзе), Законе аб судаўладдзі і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь (прыняты ў 1995 годзе), Нацыянальным плане дзеянняў на 1995 — 2000 гады (прыняты ў 1995 годзе), Законе Рэспублікі Беларусь "Аб правах дзіцяці" (прыняты ў 1993 годзе), але суды да сённяшняга часу так і не створаны.

Неабходнасць стварэння на Беларусі ювенальнай юстыцыі абгрунтоўваецца існуючай у краіне сітуацыяй. Так, напрыклад, першае знаёмства непаўналетніх з крымінальным судом на Беларусі часцей за ўсё развейвае іх страхі перад пакараннем і бліжэй знаёміць з дарослымі злачынцамі. У дадатак трэба ўлічваць, што толькі прыкладна 25 працэнтаў непаўналетніх пазбаляюцца волі рэальна, а да астатніх асуджаных выкарыстоўваюцца іншыя меры пакарання. А, па дадзеных спецыялістаў, адзін правапарушальнік, які знаходзіцца на волі, здольны ўцягнуць у супрацьпраўнае дзеянне ад 5 да 10 чалавек. Турма ж з яе вызначаным рэжымам, харчаваннем і адноснай чысцінёй зусім не падаецца такому дзіцяці непрыемнасцю — гэта "школа", знаёмствы...

Для рашэння праблем дзяцінства патрэбна стварыць сістэму органаў і ўстаноў па справах дзяцей і моладзі, галоўнымі мэтамі якіх павінны стаць максімальная абарона правоў і інтарэсаў непаўналетніх, фарміраванне неабходных сацыяльных умоў для іх усебаковага развіцця.

Сёння цяжка адказаць, якая мадэль ювенальнага правасуддзя ў нашай краіне будзе найбольш прадуктыўна працаваць. Але толькі пры наяўнасці дакладнай сістэмы можна эфектыўна абараняць правы і інтарэсы дзяцей і закласці дэмакратычныя асновы ў вырашэнні шматлікіх праблем дзяцінства.

**Алеся КАРНЕЙЧЫК,**
**навуковы супрацоўнік Нацыянальнага інстытута адукацыі.**

Бібліятэка — храм ведаў

# Шлях у вялікі свет

***У наш час — век новых інфармацыйных тэхналогій — заўсёды знойдзецца месца добрай кнізе. Менавіта з кнігі пачынаецца творчы шлях кожнага адукаванага і інтэлігентнага чалавека. Звярніце ўвагу на такі момант — усё больш паяўляецца ў кнігарнях твораў класічных аўтараў, нашых таленавітых сучасных пісьменнікаў — прыгожа аформленых, на добрай паперы. З такой кнігай так прыемна застацца сам-насам. Яна і лечыць, і падорыць добры настрой, і ўзбагаціць ведамі.***

Таму, думаю, колькі будзе жыць кніга, столькі будзе жыць і бібліятэка — храм ведаў. Зразумела, сучасная бібліятэка карэнным чынам адрозніваецца ад той, што была дзесяць, дваццаць гадоў таму назад. Змяніліся і чытачы — мы, студэнты 80-х, былі выхаваны так, што ну ніяк не маглі сапсаваць кнігу, вырваць лісты. А калі ўжо і здаралася нешта надзвычайнае, вырашалі пытанне цывілізавана.

У той час і работнікі бібліятэк не імкнуліся ўбачыць у кожным, прабачце, злодзея.

Зараз — іншы час, іншыя песні. Але прыемна, што ёсць у сталіцы бібліятэкі, дзе вельмі чакаюць сваіх чытачоў, імкнуцца дапамагчы ім і парадай, і добрым словам.

У ліку такіх бібліятэк — Рэспубліканская навукова-педагагічная бібліятэка. Гэтая бібліятэка — свайго роду звяно, якое звязвае навукова-даследчую і практычную педагагічную дзейнасць.

Настаўнік, калі ён сапраўды настаўнік, працуе над сабой усё сваё жыццё. І, нягледзячы на тое, што некаторая сума (зусім невялікая) выдзяляецца яму на набыццё метадычнай літаратуры, ён карыстаецца і паслугамі бібліятэкі. А ў педагагічнай бібліятэкі ёсць магчымасць працаваць з рознымі катэгорыямі чытачоў. Вельмі добра, калі нехта дасканала асвоіў камп'ютэр. Электронны каталог бібліятэкі налічвае больш як 60 000 запісаў і мае 8 баз даных — "Кнігі па педагогіцы і псіхалогіі", "Падручнікі і вучэбныя дапаможнікі", "Перыёдыка", "Мастацкая літаратура" і іншыя. У той жа час тыя чытачы, якія прызвычаіліся карыстацца сістэмнымі і прадметнымі каталогамі, могуць зрабіць гэта і зараз.

Гонар бібліятэкі — фонд дарэвалюцыйных выданняў. Ён налічвае каля 3.000 экзэмпляраў кніг і перыёдыкі, навуковай, папулярнай, метадычнай літаратуры, выдадзенай у 1837-1917 гадах. Дарэчы, фонд ужо прайшоў камп'ютэрную апрабацыю, мае сваю базу даных.

Як расказвае намеснік загадчыка бібліятэкі Алена Леанідаўна Белая, свае неабходныя карэктывы ў дзейнасць бібліятэкі ўнеслі і рынкавыя ўмовы. Быў створаны сектар маркетынга. Бібліятэка прадастаўляе навучальным установам права заключаць дагаворы на інфармацыйна-бібліятэчнае абслугоўванне.

Гэтай магчымасцю карыстаюцца некаторыя недзяржаўныя ВНУ і прыватныя школы. Аказвае бібліятэка і платныя паслугі — капіраванне па дыскету фрагментаў баз даных бібліятэкі, прагляд і капіраванне інфармацыі з CD-ROM, прадастаўленне тэматычных бібліятэчных спісаў па тыпавых запытах і г.д. Атрыманыя сродкі дапамагаюць бібліятэцы вырашаць свае фінансавыя праблемы, у тым ліку з падпіскай на перыядычныя выданні. Тут атрымліваюць педагагічныя газеты і часопісы з іншых краін СНД.

Чытачы бібліятэкі — педагогі, работнікі дашкольных устаноў, студэнты педагагічных ВНУ. З кожным годам колькасць чытачоў расце. Думаю, па-першае, гэта абумоўлена вялікай колькасцю спецыяльнай літаратуры, а, па-другое, дастаткова багатым фондам мастацкай. Прыйшоўшы ў гэтую ўтульную бібліятэку, можна ўзяць кнігі і для справы, і для душы.

Калі можна так сказаць, навукова-метадычны аддзел бібліятэкі, які ўзначальвае Людміла Несцяровіч, — мозг бібліятэк сістэмы адукацыі. Аддзел рэгулярна рыхтуе і выдае метадычныя распрацоўкі ў дапамогу школьнікам, бібліятэкарам, прымае ўдзел у рабоце курсаў павышэння кваліфікацыі.

Калектыў бібліятэкі ў асноўным жаночы. Але што цікава — сярод сённяшніх практыкантаў ёсць юнак, студэнт Беларускага універсітэта культуры, які ў захапленні ад сваёй будучай прафесіі. І ўвогуле многія практыканты імкнуцца пасля заканчэння навучальнай установы прыйсці сюды на працу. Шкада толькі, што ў высокакваліфікаваных спецыялістаў не вельмі высокая (мякка кажучы) заработная плата. Бывае так, што толькі з-за гэтага звальняюцца добрыя работнікі. Але як радуецца дырэктар бібліятэкі Алена Васільеўна Шамелава, калі яе падапечныя вяртаюцца назад. Алена Леанідаўна ў свой час праходзіла практыку ў Нацыянальнай бібліятэцы, атрымала для сябе шмат карыснай інфармацыі, і пры гэтым яна нікольк не шкадуе, што працуе ў педагагічнай бібліятэцы.

У супрацоўнікаў бібліятэкі — прамая сувязь з чытачамі. Яны арганізоўваюць тэматычныя выставы, паведамляюць у педагагічным друку аб усіх кніжных навінках, выдаюць інфармацыйныя бюлетэні.

Адным словам, педагагічная бібліятэка — сучасная ўстанова з усімі неабходнымі тэхнічнымі атрыбутамі. І ў той жа час яна захавала своеасаблівую духоўную ауру, чаго ў нашым сённяшнім жыцці не хапае многім установам.

**Ала ШАЎЦОВА.**

Здароўе школьніка: сацыяльны ракурс

# Пра што сведчаць лічбы

***Здароўе школьнікаў залежыць ад многіх фактараў, сярод якіх значную ролю адыгрываюць унутрышкольныя, такія, як адсутнасць належных санітарна-гігіенічных умоў у памяшканнях, нездавальняючая матэрыяльна-тэхнічная база, зніжэнне ўвагі да фізічнай культуры і спорту, недахопы ў арганізацыі харчавання ў школах. З-за недахопу памяшканняў захоўваецца двух-, а то і трохзменная работа школ.***

Змены ў сістэме школьнай адукацыі, у сваю чаргу, таксама павялічваюць негатыўны ўплыў унутрышкольных фактараў на стан здароўя вучняў. Увядзенне ў сістэму адукацыі новых тэхналогій і форм навучання, інтэнсіфікацыя навучальнага працэсу, павышаныя патрабаванні да аб'ёму і якасці ведаў прыводзяць да зніжэння працаздольнасці, пагаршэння функцыянальнага стану арганізма, дэсінхрозу (збою рытмаў у функцыянаванні арганізма).

Праведзеная ацэнка стану здароўя 15 тысяч вучняў з 1 па 11 клас паказала, што з агульнай колькасці абследаваных 20,9 працэнта аднесены да першай групы здароўя (практычна здаровыя), 52,8 працэнта — да другой (дзеці з нязначнымі функцыянальнымі адхіленнямі, у тым ліку тыя, хто часта хварэе), 26,3 працэнта — да трэцяй (дзеці, якія маюць хранічную паталогію).

Пераважная большасць школьнікаў мае полісістэмныя змены ў арганізме. У 81,4 працэнта школьнікаў 2-й групы здароўя і ў 22,2 працэнта 3-й і 4-й груп здароўя выяўлены адхіленні здароўя па 2 — 5 сістэмах. Пераважаюць нервова-псіхічныя дысфункцыі, захворванні косцева-мышачнай сістэмы, хваробы ЛОР-органаў, зроку і інш. На захворванні органаў стрававання пакутуюць ад 15 да 75 працэнтаў дзяцей.

Напружаны характар вучобы, вялікі аб'ём вучэбнай нагрузкі, дэфіцыт часу для засваення інфармацыі з'яўляюцца псіхатраўматычнымі фактарамі для дзіцяці, што ў спалучэнні са змяншэннем працягласці сну і прагулак, зніжэннем фізічнай актыўнасці аказвае стрэсарнае ўздзеянне на развіццё дзіцячага арганізма. Працяглае знаходжанне дзяцей у такіх умовах садзейнічае "замацаванню" негатыўных зрухаў у фізіялагічных рэакцыях арганізма. Гэта, у сваю чаргу, фарміруе неўратычныя расстройствы, якія потымператвараюцца ў саматычныя і праяўляюцца ў выглядзе парушэнняў дзейнасці сэрца, страўніка, кішэчніка і іншых органаў.

Адзначаецца негатыўная дынаміка ў стане здароўя ад моманту паступлення ў школу да яе заканчэння. Пры паступленні ў школу адхіленні маюць каля 49 працэнтаў дзяцей. Да 5 класа колькасць дзяцей 1-й групы здароўя змяншаецца на 53,6 працэнта, колькасць дзяцей, аднесеных да 3-й групы (хранічная паталогія і функцыянальныя адхіленні), павялічваецца на 86,5 працэнта.

На жаль, сёння даводзіцца канстатаваць, што ўжо ў дашкольным узросце 15 — 20 працэнтаў дзяцей маюць хранічныя захворванні, больш чым у 50 працэнтаў дашкольнікаў адзначаюцца функцыянальныя парушэнні апорна-рухальнага апарату, неўратычныя адхіленні сустракаюцца ў 30 — 40 працэнтаў дзяцей, алергічныя рэакцыі — у 10 — 23 працэнтаў; парушэнні дзейнасці сардэчна-сасудзістай сістэмы сустракаюцца ў 10 — 25 працэнтаў дзяцей.

За апошнія трыццаць гадоў здароўе школьнікаў мае ўстойлівую тэндэнцыю да пагаршэння. Колькасць здаровых дзяцей у першым класе знізілася з 38,7 працэнта да 5,2.

У агульнай структуры захворваемасці школьнікаў пачатковых класаў ЛОР-паталогія складае 50,9 працэнта, парушэнне апорна-рухальнага апарату — 41,5 працэнта. Сярод іх парушэнне асанкі — 20 працэнтаў, плоскаступнёвасць — 10 працэнтаў, скаліёз — 5 працэнтаў; захворванні страўнікава-кішэчнага тракта сустракаюцца ў 18 працэнтаў малодшых школьнікаў; алергічныя рэакцыі — у 17 працэнтаў; псіхічныя захворванні — у 15 працэнтаў.

Нізкі зыходны ўзровень здароўя дзяцей, якія паступаюць у першы клас, адбіваецца на працэсе адаптацыі іх да школьных нагрузак, рэжыму школы, з'яўляючыся прычынай далейшага пагаршэння здароўя і дрэннай паспяховасці.

Агульная захворваемасць сярод падлеткаў вышэйшая, чым сярод дзіцячага і дарослага насельніцтва. У гэтай групе назіраецца самае значнае павелічэнне практычна па ўсіх класах хвароб, пераважна за кошт хранічных, на якія пакутуюць каля 24 працэнтаў падлеткаў. Асаблівую заклапочанасць выклікае здароўе дзяўчынак. Паводле звестак Беларускага Цэнтра навуковай медыцынскай інфармацыі, у дзяўчат у 2,5 раза часцей, чым у юнакоў, рэгіструюцца хваробы эндакрыннай сістэмы, парушэнні абмену рэчываў, паніжаны імунітэт, у 2,4 раза — хваробы крыві, у 2,3 раза — печані і жоўцевага пузыра.

Паводле атрыманых звестак, уплыў псіхагенных фактараў, нарастанне іх інтэнсіўнасці да старшых класаў садзейнічае не толькі павелічэнню частаты функцыянальных расстройстваў ва ўзросце 15 — 17 гадоў, але і паскарэнню тэмпу фарміравання хранічных захворванняў. Гэтыя адхіленні становяцца яшчэ больш відавочнымі пры супастаўленні паказчыкаў захворваемасці старшакласнікаў у школах рознага тыпу: у вучняў школ новага тыпу частата функцыянальных адхіленняў у 1,7 раза, а хранічных — у 1,6 раза вышэй, чым у традыцыйных школах.

Паводле даных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, здароўе на 50 працэнтаў залежыць ад ладу жыцця, які вядзе чалавек, гэта значыць ад яго самога.

Каля паловы школьнікаў не маюць дакладнага ўяўлення пра здаровы лад жыцця. Звесткі па розных аспектах яго атрымліваюцца бессістэмна. Веды дзяцей пераважна носяць фармальны характар.

З пункту гледжання захавання здароўя, неабходна актыўнае выхаванне чалавека з ранняга дзяцінства ў гігіенічным рэжыме, які папярэджвае ўзнікненне і ўздзеянне на арганізм фактараў рызыкі і з'яўляецца найбольш перспектыўным. За час знаходжання ў школе ў дзяцей павінны быць выпрацаваны не толькі гігіенічныя навыкі, але і свядомае стаўленне да свайго здароўя. У сваю чаргу сама сістэма адукацыі павінна базіравацца на падмурку ашчаднай педагогікі.

**Святлана САЗАНОВІЧ.**

Падручнікі

# Тое, што трэба

***Удасканаленне школы немагчыма без добрага падручніка. Шосты год настаўнікі рускай мовы і літаратуры працуюць па новых падручніках, аўтарамі якіх з'яўляюцца выдатныя беларускія вучоныя, выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта Л.А.Мурына, Ф.І.Літвінка, Е.Я.Долбік, Г.І.Нікалаенка і іншыя.***

Лічу, што матэрыялы падручнікаў рускай мовы фарміруюць уменні і навыкі зладжанай вуснай і пісьмовай мовы, вучаць карыстацца ўсім багаццем моўных сродкаў, выпрацоўваюць трывалыя арфаграфічныя і пунктуацыйныя навыкі. Каштоўнасць падручнікаў у тым, што яны багатыя на дыдактычны матэрыял, практыкаванні, якія спрыяюць развіццю камунікатыўных уменняў і навыкаў, авалоданню моўным этыкетым.

Трэба адзначыць, што падручнікі па рускай мове пабудаваны з улікам узроставых асаблівасцяў школьнікаў. Аўтары імкнуцца даходліва і цікава паказаць, раскрыць даволі аб'ёмны і сур'ёзны матэрыял. На старонках падручнікаў шмат апорных схем, алгарытмаў, рыфмаваных правілаў, узораў разважання. Усё гэта спрыяе развіццю ў вучняў жадання набываць, выкарыстоўваць і прымнажаць свае веды, выклікае цікавасць да матэрыялу, вучыць працаваць з захапленнем.

Аўтары падручнікаў надаюць увагу і маральнаму аспекту. Яны ўмела спалучаюць навучанне і выхаванне, выкарыстоўваючы разнастайныя высокамастацкія тэксты, якія належаць вядомым майстрам слова — К.Чукоўскаму, К.Паўстоўскаму, Л.Талстому, В.Астаф'еву, В.Біянкі і інш. Такія практыкаванні выхоўваюць у вучняў любоў да прыроды, роднай зямлі, да слова, вучаць іх высакароднасці.

У падручніках шмат пазнавальнага матэрыялу. Ён размешчаны пад рознымі рубрыкамі: "З гісторыі слоў", "Гэта цікава", "Вузельчыкі на памяць", "Людзі навукі". Вучні заўсёды з вялікім задавальненнем выконваюць такія практыкаванні.

Новы раздзел падручнікаў рускай мовы называецца "Жанры мовы". Характэрнай асаблівасцю гэтага раздзела з'яўляецца яго жанрава-камунікатыўная накіраванасць. Цікава праходзіць работа па тэмах гэтага раздзела. Вучні знаёмяцца з рознымі жанрамі мовы. Яны вучацца сачыняць загадкі, байкі, казкі, апавяданні, рыхтуюць вучэбныя паведамленні, пішуць водгукі, рэцэнзіі, даклады, анатацыі, складаюць характарыстыкі. Такая работа далучае дзяцей да творчасці.

Усе заданні ў падручніках можна размеркаваць на дзве групы: рэпрадуктыўныя і прадуктыўныя. Рэпрадуктыўныя — гэта заданні, якія патрабуюць ад вучняў перадачы гатовых ведаў і метадаў работы без істотных змяненняў, а да прадуктыўных адносяцца заданні, выкананне якіх мяркуе пошук новых шляхоў вучэбнай дзейнасці. Такое размеркаванне матэрыялу дапамагае настаўніку змадэліраваць урок з улікам асаблівасцей класа, дае магчымасць выкарыстоўваць вучэбны матэрыял на ўроках рознаўзроўневага навучання, пры складанні Дальтон-заданняў для самастойнай работы, модульных праграм, на ўроках-заліках, практыкумах, дапамагае дыферэнцыяваць навучанне.

Працуючы па новых падручніках, мы, настаўнікі-філолагі Слонімшчыны, прыйшлі да высновы, што яны цалкам адлюстроўваюць новыя тэндэнцыі моўнай адукацыі ў рэспубліцы. І іх можна з упэўненасцю назваць сучаснымі падручнікамі рускай мовы.

**Галіна ПАПКО,**
**настаўніца рускай мовы і літаратуры вышэйшай катэгорыі сярэдняй школы №7 Слоніма.**

# Інтэграцыя дзяцей у грамадстве

Глабальны рух у інтарэсах дзяцей, які ўзяў пачатак у 1990 годзе на Сусветнай сустрэчы на вышэйшым узроўні, стаў пачаткам працэсу, які прыцягнуў увагу членаў урада і лідэраў грамадскіх арганізацый і аб'яднаў іх вакол вызначаных задач у інтарэсах дзяцей і падлеткаў.

Прадстаўніцтва Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ) у Рэспубліцы Беларусь і Саюз маладзёжных і дзіцячых грамадскіх аб'яднанняў "Беларускі нацыянальны маладзёжны савет" рэалізуе праект "Глабальны рух у інтарэсах дзяцей", які накіраваны на забеспячэнне ўдзелу Беларусі ў гэтым руху. Праект накіраваны на інтэграцыю дзяцей у грамадстве, павышэнне іх сацыяльнай актыўнасці, удзел дзяцей у працэсе прыняцця рашэнняў.

Праект працуе другі год і ўваходзіць у склад праграмы "Грамадства на абароне правоў дзіцяці", якая ўваходзіць у зводны план дзеянняў Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ) і ўрада Рэспублікі Беларусь на 2000-2001 гады.

Сёлета асноўныя намаганні ў межах рэалізацыі праекта будуць скіраваны на ўзаемадзеянне, партнёрства дзяцей і дарослых, па адпрацоўцы яго асобных элементаў і распаўсюджанні станоўчага вопыту на ўсю краіну, а таксама на забеспячэнне рэальнага ўдзелу беларускіх дзяцей у падрыхтоўцы Спецыяльнай сесіі ААН у інтарэсах дзяцей і распрацоўцы глабальнага парадку дня на далейшыя 10-15 год.

**Вольга ДУБОВІК.**

# "Сігма" дзейнічае

Мы ўжо паведамлялі нашым чытачам пра тое, што ў нашай краіне створана Беларускае грамадскае аб'яднанне-асацыяцыя выкладчыкаў і настаўнікаў матэматыкі і інфарматыкі "Сігма". Афіцыйна нараджэнне асацыяцыі адбылося ў канцы студзеня бягучага года ў адукацыйным цэнтры "Надзея XXI стагоддзя", што пад Вілейкай, дзе тады адбылася ўстаноўчая канферэнцыя. На ёй сабраліся тыя, каго сёння па-сапраўднаму хвалюе лёс матэматычнай адукацыі ў краіне і тэндэнцыя негатыўнага стаўлення да дакладных навук увогуле, што выявілася ў апошнія гады. Гэта — настаўнікі-энтузіясты і метадысты, аўтары школьных падручнікаў і дапаможнікаў па матэматыцы і інфарматыцы, спецыялісты ўстаноў адукацыі, рэдактары спецыялізаваных навукова-метадычных выданняў, члены журы рэспубліканскіх алімпіяд. Хаця ўвогуле ідэя стварэння асацыяцыі, пра што і ўспаміналі ўдзельнікі канферэнцыі падчас гарачых дыскусій і творчых дэбатаў, спела ўжо даўно. Пяць гадоў таму, у жніўні 1996 года, у рэспубліканскай летняй навукова-даследчай школе навучэнцаў і настаўнікаў, што ў пасёлку Лужасна Віцебскай вобласці, заявілі ідэю стварэння асацыяцыі матэматыкі. Тым болей, што станоўчы вопыт работы такіх асацыяцый у краінах бліжняга замежжа ёсць. Ён быў вывучаны і ўзяты на ўзбраенне. Час ішоў.

За рэалізацыю гэтай ідэі ўзяліся, з аднаго боку — настаўнікі і работнікі раённых і гарадскіх аддзелаў адукацыі, з другога — упраўленне арганізацыйна-метадычнай работы і кафедра інфарматыкі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі на чале з доктарам фізіка-матэматычных навук, прафесарам, рэктарам Акадэміі паслядыпломнай адукацыі Алегам Ігнатавічам Таўгенем. Было вырашана аб'яднаць намаганні матэматыкаў і інфарматыкаў на карысць агульнай справе. Тым болей, сцвярджалі ўдзельнікі канферэнцыі, такім прадметам як матэматыка і інфарматыка неабходна ўжо даўно надаць статус асновавызначальнага прадмета.

Былі вызначаны галоўныя напрамкі работы асацыяцыі і прыняты яе статут, у якім акрэслены асноўныя мэты і задачы.

— Мэта асацыяцыі — садзейнічаць развіццю адукацыі на Беларусі ў галіне выкладання матэматыкі і інфарматыкі шляхам удасканалення матэматычнай і прафесійнай дзейнасці настаўнікаў матэматыкі і інфарматыкі, — падкрэсліў аднагалосна абраны прэзідэнт грамадскага аб'яднання, аўтар школьных праграм і падручнікаў прафесар Алег Ігнатавіч Таўгень. — Наша задача — весці незалежную грамадскую экспертную ацэнку вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў, дакументаў па пытаннях інстытуцкай і школьнай матэматычнай адукацыі і выкладання інфарматыкі, прымаць удзел у іх распрацоўцы і апрабацыі. Мы будзем выяўляць, падтрымліваць, абагульняць вопыт работы выкладчыкаў і настаўнікаў матэматыкі і інфарматыкі, садзейнічаць творча працуючым педагогам ў падрыхтоўцы іх матэрыялаў да выдання, устанаўленню прафесійных і культурных сувязей з такімі ж грамадскімі аб'яднаннямі педагогаў замежных краін, абменьвацца вопытам, вывучаць і адаптоўваць сучасныя адукацыйныя тэхналогіі ў выкладанні матэматыкі і інфарматыкі, а таксама праз друк гаварыць пра свае праблемы...

Дзейнасць асацыяцыі будзе плённай толькі ў тым выпадку, лічаць матэматыкі і інфарматыкі, калі яна будзе цесна супрацоўнічаць з Нацыянальнай акадэміяй навук, Беларускай акадэміяй адукацыі, Міністэрствам адукацыі, усімі навучальнымі установамі краіны, вучонымі, выкладчыкамі і настаўнікамі.

Адным з актыўных удзельнікаў устаноўчай канферэнцыі быў суаўтар прапануемага ніжэй артыкула. Мікалай Максімавіч Раганоўскі — прафесар матэматыкі, аўтар вучэбна-метадычнага комплекса па геаметрыі для класаў з паглыбленым вывучэннем матэматыкі. Тады на ўстаноўчай канферэнцыі мне запомніліся такія яго словы:

— Мы павінны прапагандаваць ідэі матэматыкі і інфарматыкі ў грамадстве. Не сакрэт, што сёння сітуацыя для гэтых прадметаў склалася ў школе неспрыяльная. Аднак мы не павінны зніжаць планку! Ад таго, як гэтыя прадметы будуць вывучацца ў школе на паглыбленым узроўні, залежыць інтэлектуальнае развіццё нашага грамадства.

**Святлана БЕНЬ.**

*Меркаванне вучонага*

# Ці цяжка вывучаць матэматыку,

## альбо Якая матэматычная адукацыя будзе запатрабавана на Беларусі?

Вядома высокая ацэнка ЮНЕСКА адукацыйнага ўзроўню ў Рэспубліцы Беларусь. У значнай ступені гэтая ацэнка адносіцца і да сярэдняй матэматычнай адукацыі. У нашай краіне знойдзены сродкі і своечасова падрыхтаваны вучэбна-метадычныя комплексы для сярэдняй школы, якія ўключаюць падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, дыдактычныя матэрыялы для вучняў, метадычныя дапаможнікі для настаўнікаў. Іх распрацоўкай займаюцца вядомыя вучоныя і практыкі. Некаторыя школьныя падручнікі матэматыкі паспяхова вытрымалі шматразовыя выданні і добра вядомы настаўніку. Паказальна, што па матэматыцы падрыхтаваны альтэрнатыўныя падручнікі. Настаўнік сёння больш заклапочаны не праблемай забяспечанасці вучняў падручнікамі (хоць і гэтая праблема не знята поўнасцю), а праблемай іх выбару. Пра такое становішча дзесяць гадоў таму можна было толькі марыць. Ужо адно гэта гаворыць пра тое, што сярэдняя школа не забыта дзяржавай, а Міністэрства адукацыі забяспечыла ў гэтым накірунку сапраўдны прарыў. Заўважым, што ў нашай рэспубліцы адначасова з беларускімі шырока выкарыстоўваюцца таксама і расійскія падручнікі. Як і раней, школа мае доступ да расійскіх крыніц навукова-метадычнай інфармацыі. Цудоўна дапаўняюць адзін аднаго беларускі часопіс "Адукацыя і выхаванне: праблемы выкладання матэматыкі" і расійскі часопіс "Математика в школе", які мае багатыя традыцыі. На Беларусі добра вядомы і іншыя расійскія выданні для настаўніка (напрыклад, дадатак "Матэматыка" да газеты "Первое сентября"). На нашу думку, па падрыхтоўцы якасных падручнікаў Рэспубліка Беларусь выйшла на перадавыя пазіцыі не толькі сярод краін СНД, але і сярод развітых краін далёкага замежжа. Гэта, зразумела, не азначае, што вычарпаны ўсе магчымасці і можна супакойвацца на дасягнутым. Цяпер задачай нумар 1 з'яўляецца падрыхтоўка сучасных падручнікаў для 12-гадовай сярэдняй школы. Наспела неабходнасць таксама ў падручніках для ліцэяў і каледжаў.

Пэўныя паляпшэнні адбыліся ў плане павышэння прафесійнай падрыхтоўкі настаўнікаў матэматыкі, падняцця яе да універсітэцкага ўзроўню. Добрым прыкладам дэмакратызацыі школы стала прадастаўленне ёй магчымасці карэкціраваць вучэбны план: частку вучэбнага часу школа размяркоўвае паводле свайго меркавання.

Пералік станоўчых перамен можа быць працягнуты і далей. У тым, што школа не здае свае пазіцыі і ў асноўным забяспечвае патрэбнасці грамадства, галоўная заслуга, канешне, належыць настаўніку.

Падыдзем цяпер да праблем сярэдняй школы з другога боку. Перш за ўсё дадзім свае ацэнкі стаўлення грамадства да школы. Пры гэтым адзначым, што не мелі на мэце выявіць усю палітру меркаванняў і тым больш прывесці іх да адной роўніцы. Увогуле ў грамадстве пераважае добрае стаўленне да школы і прызнанне яе заслуг. Але разам з гэтым сустракаецца пэўнае неразуменне, скептыцызм. Напрыклад, ёсць меркаванне, што школа празмерна "зарэфармавана". Частая змена рэформ, выпрацоўка іх накірунку вузкім колам людзей, спусканне зверху, слабая інфармаванасць грамадства, адсутнасць належнай папулярызацыі — такія меркаванні бываюць нярэдкімі ў вялікай частцы бацькоў. Прафесійныя газеты і часопісы звернуты галоўным чынам да настаўніка і не з'яўляюцца тымі выданнямі, якімі зачытваецца ўсё насельніцтва.

Не меншы скептыцызм існуе і ў адносінах да ведаў вучняў, якасці навучання. Пра зніжэнне якасці ведаў абітурыентаў пастаянна гавораць выкладчыкі ВНУ. Па сутнасці выпускнікі сярэдняй школы, атрымаўшы базавы ўзровень навучання, аказваюцца не падрыхаванымі да паступлення ў ВНУ. Не выпадкова ў апошнія дзесяць гадоў асабліва ярка квітнее рэпетытарства. Паніжэнне ўзроўню ведаў адзначаецца і ў самай высокай катэгорыі вучняў — медалістаў. Высокі працэнт двоек у медалістаў быў адзначаны, напрыклад, на ўступных экзаменах у мінулым годзе. Гэты факт атрымаў вялікі грамадскі рэзананс, і Міністэрства адукацыі вымушана было рабіць справаздачу за кожную двойку перад Прэзідэнтам. Матэматыкі, якія рыхтуюць школьнікаў да алімпіяд высокага ўзроўню, адзначаюць, што ім даводзіцца пачынаць з нуля, што сярэдняя школа не забяспечвае ў гэтым плане нават мінімальнай падрыхтоўкі. Ці не гаворыць усё гэта пра тое, *што паглыбленае вывучэнне матэматыкі рэальна ў практыцы школы не існуе.*

Самым злабадзённым, бадай, застаецца пытанне аб перагрузцы вучняў. Пры гэтым матэматыка лічыцца адным з цяжкіх вучэбных прадметаў, якая робіць найбольшы "ўклад" у гэтую перагрузку. У пацвярджэнне факта перагрузкі часта прыводзяцца даныя аб стане здароўя вучняў. На нашу думку, у гэтым пытанні не ўсё так адназначна, і рабіць нейкія "прамалінейныя" вывады недапушчальна. З дрэнным здароўем дзеці прыходзяць ужо ў першы клас (да 40 — 50 працэнтаў першакласнікаў маюць тыя або іншыя захворванні). Павялічваецца колькасць вучняў, для якіх неабходны аблегчаны вучэбны рэжым. У гэтых умовах школе становіцца ўсё цяжэй забяспечваць паўнацэнную адукацыйную падрыхтоўку вучняў, даваць ім належнае развіццё і выхаванне. Аб'ектыўна адбываецца зніжэнне адукацыйнай планкі. Гэта зніжэнне відаць "няўзброеным" вокам: дастаткова параўнаць змест падручнікаў і кантрольных работ да 1917 г. ці ў 50-60-х гг. цяпер ужо мінулага стагоддзя. Кантрольныя работы, якія рашаліся раней, цяпер (асабліва на базавым узроўні) прапаноўваць вучням не мае сэнсу! Будуць адны двойкі. Не трэба спяшацца і з вывадам, што крыніцай перагрузкі служаць падручнікі. Кожны вучань бярэ з падручніка роўна столькі, колькі можа ўзяць. Нельга надарвацца штангай у 100 кг, калі больш як 15 кг не падымаеш. І ўсё ж перагрузка ёсць, і немалая. На наш погляд, выклікана яна больш не складанасцю вучэбных прадметаў, а іх вялікай колькасцю. Выседзець за партай 7-8 урокаў вельмі цяжка фізічна, нават калі галава не напружваецца. Паглядзім, як змагаецца з гэтай з'явай эксперыментальны базісны вучэбны план агульнаадукацыйнай школы з 12-гадовым тэрмінам навучання, 5-дзённы вучэбны, 6-дзённы школьны тыдзень (праект 2000 г.). Для прыкладу возьмем 7 клас (нумарацыя класаў пачынаецца з "О"). Прыцягвае ўвагу вялікая колькасць вучэбных прадметаў з невялікай колькасцю ўрокаў у тыдзень. На рускую літаратуру адводзіцца 1 гадзіна ў першым паўгоддзі і 2 гадзіны ў другім, на гісторыю Беларусі — 1 гадзіна, на сусветную гісторыю — 1 гадзіна, на інфарматыку — 1 (толькі ў першым паўгоддзі), на хімію — 2 гадзіны ў першым паўгоддзі і 1 гадзіна — у другім, на біялогію — 2 гадзіны ў першым паўгоддзі і 1 гадзіна — у другім, на мастацтва — 1 гадзіна, на тэхналогію — 2 гадзіны. Тыднёвая нагрузка па дзяржаўным кампаненце складае 29 гадзін, на школьны кампанент адводзіцца 7 гадзін, найбольшая разліковая вучэбная нагрузка на аднаго вучня — 32 гадзіны, агульная колькасць фінансуемых гадзін на тыдзень — 36. Як відаць, вучэбны план прадугледжвае ў 7 класе 6 ці 7 урокаў штодзень. Калі вучань "спажывае" ўсе 36 фінансуемых гадзін, то яго расклад будзе складацца мінімум з 7 урокаў штодзень. Школьны кампанент вучэбных гадзін складае больш як 25 працэнтаў ад дзяржаўнага. Гэта азначае, што *пытанне аб тым, наколькі будзе загружаны вучань, вырашаецца непасрэдна ў школе*, а школа пры гэтым звычайна ідзе насустрач пажаданням бацькоў і вучняў (якія прадметы вывучаць на базавым, якія на павышаным ці паглыбленым узроўні). На матэматыку ў гэтым плане адводзіцца ўсяго 4 гадзіны. Як гэтыя гадзіны падзяліць паміж геаметрыяй і алгебрай, ніхто не ведае. На практыцы ж адбываецца амаль поўнае выцясненне геаметрыі. Калі вучэбны план будзе дзейнічаць у такім выглядзе, то існуючыя вострыя праблемы ў школьнай адукацыі будуць толькі ўскладнены. Кожны настаўнік скажа, што ад вучэбных прадметаў, на якія адводзіцца 1 гадзіна на тыдзень, карысці мала. Факт малаэфектыўнага распылення вучэбнага часу відавочны. Адзначым таксама, што на прадмет, ад якога залежыць здароўе вучняў (фізкультуру), у 7 класе адводзіцца толькі 3 гадзіны. Мы прапануем яшчэ раз вярнуцца да вучэбнага плана, істотна дапрацаваць яго, вызначыць у ім цвёрдыя арыенціры і прыярытэты. Да іх мы адносім мову і літаратуру (беларускую і рускую), замежную мову, матэматыку і фізкультуру. *Неабходна рашуча скараціць колькасць аднаўрочных прадметаў.*

Закранем яшчэ пытанне аб сацыяльным становішчы настаўнікаў. Зарплата настаўніка застаецца надзвычай нізкай. Пры ўсіх яе "своечасовых" павышэннях настаўніцкай сям'і не заўсёды хапае нават на хлеб. Неяк у гутарцы са студэнтамі выпускнога курса мы спыталі: "Як вы думаеце, у каго зарплата меншая, чым у настаўніка?" Адказ быў такі: "Не ведаем, магчыма, у вартаўнікоў..." У грамадстве пераважае свайго роду "прафесійны эгаізм". Кожны лічыць, што ў яго галіне зарплата павінна быць вышэйшай, чым у другой. А ў адрас настаўніка можна часам пачуць і такое выказванне: "Якая работа — такая і зарплата". Хіба гэта справядліва? Пры такім становішчы цяжка зацікавіць настаўніка займацца навучаннем на паглыбленым узроўні. Каб выхаваць вучня як асобу, настаўнік спачатку сам павінен адчуваць сябе асобай. Няма і арганізацыі, якая б дастойна прадстаўляла інтарэсы настаўніка ў грамадстве.

Праблемы школы сёння нельга абмяркоўваць без уліку дыферэнцыяцыі навучання. Мы высока ацэньваем ідэю дыферэнцыяцыі навучання, лічым яе вельмі важнай. Пры многіх недахопах яе практычнай рэалізацыі яна ўжо цяпер нядрэнна працуе на народную адукацыю. Пэўныя карэктывы ў дыферэнцыяцыю навучання ўносіць згаданы вышэй эксперыментальны базісны вучэбны план. Дыферэнцыяцыю па ўзроўнях навучання рэкамендуецца пачынаць з 7 класа, з сістэматычных курсаў геаметрыі і алгебры. На базавым узроўні на матэматыку выдзяляюцца 4 гадзіны, на павышаным — 6, на паглыбленым — 8. Дадатковыя гадзіны для павышанага і паглыбленага ўзроўняў выдзяляюцца за кошт школьнага кампанента. Два апошнія гады навучання (10 і 11 класы) прадстаўлены ліцэйскімі класамі па розных напрамках дыферэнцыяцыі: агульнаадуацыйным, гуманітарным, прыродазнаўчанавуковым, тэхналагічным. У кожным напрамку (выключаючы гуманітарны) прадугледжваюцца тры ўзроўні навучання з колькасцю гадзін адпаведна 4, 6 і 8. На гуманітарным узроўні на матэматыку выдзяляецца 3 гадзіны ў 10 класе і 2 гадзіны — ў 11 класе.

Завяршаецца распрацоўка праграмы па матэматыцы для 12-гадовай агульнаадукацыйнай школы. Адна праграма — для базавага і павышанага (профільнага) узроўняў і асобная праграма — для паглыбленага ўзроўню навучання. У адпаведнасці з гэтым прапануецца першыя два ўрокі сумяшчаць у адным падручніку, а для паглыбленага ўзроўню мець асобны падручнік. Павышаны (профільны) узровень не намнога адрозніваецца ад базавага. Калі на базавым узроўні многія доказы апускаюцца, то на павышаным яны разглядаюцца; "павышэнне" прадугледжваецца таксама ў сістэме задач. Як відаць, у арганізацыі ліцэйскіх класаў поўнасцю ўлічаны ўжо існуючы вопыт дыферэнцыяцыі. Яшчэ адна важная прапанова: абавязковай лічыць дзесяцігодку (класы 0 — 9), ліцэйскія — неабавязковымі. У гуманітарным ліцэі ў сувязі з тым, што на матэматыку выдзяляюцца 2 ці 3 гадзіны, прадугледжваецца ўзровень навучання ніжэйшы за базавы.

Звернемся да вопыту дыферэнцыяцыі навучання, які склаўся ў апошнія гады. Дэ-юрэ любы ўзровень навучання (уключаючы базавы і больш нізкі) не закрывае магчымасці паступлення ў ВНУ, у якіх здаецца ўступны экзамен па матэматыцы. Дэ-факта базавы ўзровень такой магчымасці не забяспечвае. Профільны ўзровень, які не намнога адрозніваецца ад базавага, цвёрдай гарантыі паступлення ў ВНУ (асабліва прэстыжную) таксама не дае. Часта для профільнага ўзроўню за кошт школьнага кампанента выдзяляецца 8 гадзін — максімальна магчымая колькасць гадзін. На наш погляд, у рамках базава-профільнай праграмы гэтыя гадзіны не могуць быць выкарыстаны эфектыўна. На неглыбокія веды наводзіцца толькі больш "глянец". Галоўнае заключаецца ў тым, што інтэлектуальныя магчымасці вучняў (зазначым — лепшых вучняў) выкарыстоўваюцца далёка не ў поўнай меры. Адукацыйны развіццёвы "не цяжка" такога навучання відавочны. На пытанне "Ці цяжка вывучаць матэматыку?" вучні профільных класаў, як правіла, адказваюць: "Не, не цяжка". Парушэнне суvoраўскага прынцыпу "цяжка ў вучэнні — лёгка ў баі" стварае супрацьлеглую сітуацыю: "лёгка ў вучэнні — цяжка на экзаменах". Гэтае становішча не зменіцца, калі ў агульнаадукацыйнай школе не будзе ўдзяляцца належная ўвага класам з паглыбленым вывучэннем матэматыкі. Хацелася б, каб у новай, 12-гадовай школе гэтыя класы атрымалі пастаянную прапіску. Вырашэнне гэтага пытання напрамую залежыць таксама ад матэрыяльнага стымулявання настаўніцкай працы. Заўважым, што адзначаная сітуацыя з паглыбленым вывучэннем прадметаў мае месца не толькі ў агульнаадукацыйнай школе, але і ў існуючых цяпер ліцэях, гімназіях і каледжах. Нават у ліцэі пры БДУ няма паглыбленага вывучэння матэматыкі. Ад работы з настаўнікамі ў гэтым накірунку поўнасцю адмовіліся абласныя інстытуты ўдасканалення настаўнікаў, мала што робіць і рэспубліканскі інстытут (цяпер — Акадэмія паслядыпломнай адукацыі). АПА збірае настаўнікаў на курсы з перыядычнасцю раз у чатыры гады. На апошнім зборы, на якім нам прапанавалі чытаць лекцыі, у групе з 25 чалавек знайшліся толькі 3 чалавекі, якія працуюць у класах з паглыбленым вывучэннем матэматыкі. Падобна на тое, што кіраўніцкая "вертыкаль" у сістэме народнай адукацыі мала заклапочана становішчам спраў з паглыбленым вывучэннем прадметаў. Няма ўліку, няма арганізацыйных мер па стварэнні адпаведных класаў. Зразумела, што самацёкам гэтае дастаткова няпростае пытанне вырашана быць не можа.

У заключэнне выкажам некаторыя тэзісы аб распрацоўцы і прымяненні сучасных адукацыйных тэхналогій. Апошнім часам выйшла ў свет сур'ёзная літаратура, дзе падагульняюцца тэарэтычныя і практычныя даследаванні ў гэтай галіне (Г.К.Селевко. Современные образовательные технологии. — М.: Народное образование, 1998; Д.Г.Левитес. Практика обучения: современные образовательные технологии. — Москва — Воронеж, 1998). У Рэспубліцы Беларусь праводзіцца эксперыментальная работа па вывучэнні і ўкараненні некаторых адукацыйных тэхналогій. Вялікую цікавасць да гэтай праблемы праяўляюць настаўнікі. Усё гэта дае надзею, што пераход на 12-гадовую школу атрымае неабходнае падмацаванне і з гэтага боку.

Аналіз літаратуры па адукацыйных тэхналогіях, вопыту работы школы, нашы даследаванні ў гэтай галіне прывялі да некаторых высноў, якія, як нам падаецца, могуць зацікавіць педагагічную грамадскасць.

Першая выснова. У метадалагічных адносінах немэтазгодна новыя тэхналогіі навучання будаваць на супрацьпастаўленні з існуючай (ці, як звычайна кажуць, традыцыйнай). Такія тэхналогіі заведама асуджаны на выміранне. Сведчанняў таму — колькі заўгодна. Да прыкладу, навучанне па "Дальтон-плане", якое выкарыстоўвалася ў 20-х гадах у Расіі, аказалася б больш жыццяздольным, калі б яно не ішло ўразрэз з існуючай класнаўрочнай сістэмай і сістэмным падыходам да пабудовы зместу вучэбных курсаў.

Другая выснова. Нельга прызнаць здавальняючымі існуючыя апісанні традыцыйнай тэхналогіі навучання. Часам выклікаюць пытанні і непаразуменне нават самыя першыя тэрміны, якія выкарыстоўваюцца ў гэтых мэтах. Напрыклад, у кнізе Г.К.Сяляўкі традыцыйнае навучанне называецца і "сучасным і традыцыйным навучаннем", і "традыцыйным класічным навучаннем" (с. 34). Адрозненне паміж імі не праводзіцца, блытаніну ж гэтыя тэрміны ўносяць відавочную. Нельга пагадзіцца з тым, што традыцыйнае навучанне будуецца на педагогіцы прымусу. У такім катэгарычным выглядзе прымус ніколі не прысутнічаў ні ў тэорыі, ні ў практыцы традыцыйнага навучання. У традыцыйным навучанні заўсёды цаніліся тактоўнае, паважлівае стаўленне да вучня, любоў да дзяцей. Нельга пагадзіцца з тым, што традыцыйнае навучанне (нават "сучаснае") будуецца толькі на канцэпцыі асацыятыўна-рэфлекторнага засваення з апорай на ўзоры і прыклады. На нашу думку, традыцыйная сістэма носіць адкрыты характар і не адмаўляе сучасныя падыходы (напрыклад, праблемнае навучанне). Больш за тое, ідзе бесперапынны працэс перабудовы традыцыйнай сістэмы з улікам найноўшых дасягненняў.

Трэцяя выснова. Новыя тэхналогіі, якія абапіраюцца на вузкую канцэптуальную базу, не ахопліваюць увесь працэс навучання і не могуць быць эфектыўнымі і доўгачасовымі. Цяпер жа сустракаецца і такое, калі 3-4 метадычныя прыёмы ўзводзяцца ў ранг універсальных, і лічыцца, што гэтага дастаткова для абнаўлення новай тэхналогіі ці сістэмы навучання. Тэхналогія навучання павінна адпаведным чынам канкрэтызаваць мэты, змест, сродкі, метады і формы навучання. Зразумела, яна павінна мець пэўную накіраванасць, расстаноўку прыярытэтаў, якія забяспечваюць яе цэласнасць і гарантуюць дасягненне плануемых вынікаў навучання.

Распрацаваная ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце (аўтарамі гэтага артыкула) тэхналогія навучання носіць інтэграцыйны характар. У інтэграцыйнай тэхналогіі захоўваецца трыадзінства адукацыйнай, развіццёвай і выхаваўчай мэт навучання, але прыярытэтнай лічыцца развіццёвая мэта (зыходзячы з таго, што асноўнай задачай школы з'яўляецца развіццё асобы вучня). *Інтэграцыйная тэхналогія навучання не адмаўляе традыцыйную,* усё, што ёсць у традыцыйнай сістэме, яна далучае да сябе ў адпаведным чынам перапрацаваным выглядзе.

Інтэграцыйны падыход звязваецца з выкладаннем вучэбнага матэрыялу вялікімі блокамі. Праведзена размежаванне з механічным узбуйненнем зместу навучання. Выкладанне вучэбнага матэрыялу лічыцца буйнаблочным, калі яно арыентавана на засваенне цэласнай сістэмы гэтага матэрыялу і мае накіраванасць "ад сістэмы — да яе частак і элементаў". Уваходжанне вучня ў сістэму забяспечваецца не шляхам "невыразнага абмалёўвання сілуэта сістэмы", а метадам зрэзаў, кожны з якіх характарызуе ўсю сістэму вывучаемага вялікага блока з пэўнага пункту гледжання. Першы зрэз характарызуе блок вучэбнага матэрыялу з паняційнага боку. Для гэтага паняцці ўводзяцца не паэтапна, а адразу на пачатку тэмы, на пачатку блока вучэбнага матэрыялу. Замест "невыразнага сілуэта" вучні знаёмяцца з сістэмай паняццяў вывучаемага фрагмента, што забяспечвае далейшае, больш хуткае ўваходжанне ў сістэму. Наступны зрэз характарызуе блок вучэбнага матэрыялу з факталагічнага боку. Для гэтага тэарэмы фармулююцца таксама не адасоблена, а аб'ядноўваюцца ў групы, якія складаюцца з некалькіх тэарэм. Гэта аблягчае бачанне вучнямі сістэмы вучэбнага матэрыялу ў цэлым. Трэці зрэз адносіцца да доказаў тэарэм. Яны таксама даюцца вялікай порцыяй. Чацвёрты зрэз адносіцца да сістэмы задач. Пабудова сістэмы задач пачынаецца з ключавых задач, якія даюць уяўленне пра ўсю сістэму задач дадзенага фрагмента вучэбнага матэрыялу.

Метад зрэзаў рэалізаваны намі ў вучэбна-метадычным комплексе па геаметрыі для 7-11 класаў з паглыбленым вывучэннем матэматыкі. Цяпер рыхтуецца 4-е выданне падручнікаў па геаметрыі (для 12-гадовай школы).

Тэхналогія навучання прадугледжвае прымяненне метадаў і прыёмаў, якія дапамагаюць вучням авалодваць вялікай порцыяй вучэбнага матэрыялу. Асаблівая ўвага ўдзяляецца прыёмам структурызацыі вучэбнага матэрыялу. Не адхіляецца любы традыцыйны прыём. Напрыклад, вусная работа. Але ў нашай сістэме перавага аддаецца такой вуснай рабоце, якая праводзіцца па ўсім блоку вучэбнага матэрыялу і тым самым садзейнічае глыбокаму засваенню яго ў цэлым. Не працiпастаўляюцца тлумачальна-ілюстратыўныя і праблемныя метады навучання. З улікам спецыфікі вучэбнага матэрыялу прымяняюцца розныя метады навучання. Зыходзім з таго, што рэальна прымяняемы метад навучання з'яўляецца шматгранным: ён адначасова можа быць наглядным, слоўным, эўрыстычным і г.д. Чым больш такіх граняў задзейнічана ў метадзе, тым большымі патэнцыяльнымі магчымасцямі ён валодае.

Наша сістэма абапіраецца на вядомы вопыт настаўнікаў-наватараў па выкарыстанні такіх форм навучання, як урок-лекцыя, урок-кансультацыя, урок-залік, урок-семінар, урок-практыкум.

Развіццёвы патэнцыял гэтай тэхналогіі навучання абумоўлены тым, што вучні далучаюцца да аперыравання сістэмай вучэбнага матэрыялу ў цэлым. Пры гэтым ствараюцца больш спрыяльныя магчымасці для развіцця перспектывы, кругагляду вучняў, пераносу ведаў і ўменняў на новыя сітуацыі, павышаецца эўрыстычнасць у выкладанні вучэбнага матэрыялу, што садзейнічае працэсам здагадкі, павышэнню самастойнасці ў здабыванні ведаў.

**Мікалай РАГАНОЎСКІ,**
**доктар педагагічных навук,**
**прафесар матэматыкі,**
**член-карэспандэнт Акадэміі адукацыі Рэспублікі Беларусь,**
**аўтар вучэбна-метадычнага комплексу па геаметрыі для класаў з паглыбленым вывучэннем матэматыкі.**
**Алена РАГАНОЎСКАЯ,**
**асістэнт кафедры методыкі выкладання матэматыкі Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А.А.Куляшова,**
**аўтар вучэбна-метадычнага комплексу па геаметрыі для класаў з паглыбленым вывучэннем матэматыкі.**

Наш вернісаж



Захапленне. **Фота Вольгі РАМАНЕНКА.**

Прафесійна-тэхнічная адукацыя

# З мінуўшчыны — у сучаснасць

Магілёўскаму прафесійна-тэхнічнаму вучылішчу № 98 хімікаў споўнілася 70 гадоў.

А сваю гісторыю вучылішча вядзе з далёкіх дзён першай пяцігодкі, калі ў 1930 годзе на ўскраіне Магілёва — былой Цішоўскай пустэчы — камсамольцы 30-х гадоў распачалі грандыёзнае будаўніцтва Магілёўскай шаўковай фабрыкі. Тэхналогія вытворчасці, тэхнічнае абсталяванне для вырабу штучнага віскознага шоўку — усё было новым для нашай краіны, для нашых інжынераў, тэхнікаў і рабочых, і ўсё было закуплена ў Германіі. Трэба было за вельмі кароткі тэрмін асвоіць тэхналогію, падрыхтаваць рабочых такой кваліфікацыі, каб хутка вывесці першую чаргу фабрыкі на праектную магутнасць.

І вось падпісаны загад аб стварэнні пры прадпрыемстве школы фабрычна-заводскага вучнёўства. Школа ФЗВ размяшчалася ў двух дашчатых бараках па суседству з фабрыкай. Кантынгент яе быў невялікі — усяго 120-150 чалавек у год — і складаўся з юнакоў і дзяўчат, якія мелі ў асноўным адукацыю 3 — 6 класаў школы. Аднак, нягледзячы на гэта, баявы запал і энтузіязм дапамагалі моладзі хутка і паспяхова асвойваць складаныя тэхналагічныя працэсы. Магілёўскі шоўк хутка заваяваў папулярнасць у краіне высокай якасцю і шырокім асартыментам.

Выпускнікі школы ФЗВ складалі асноўны атрад кадравых рабочых фабрыкі. За перадваенныя гады ў школе ФЗВ было падрыхтавана каля 1000 кваліфікаваных рабочых.

У пачатку Вялікай Айчыннай вайны шаўковая фабрыка была эвакуіравана, карпусы яе цэхаў разбураны фашыстамі.

Пасля вайны ў цяжкіх умовах пачалося аднаўленне фабрыкі, і адным з першых быў адрамантаваны будынак, у якім і прадоўжыла з 1946 года сваю работу школа ФЗВ.

Потым пашырэнне вытворчасці запатрабавала павелічэння колькасці падрыхтоўкі рабочых.

У 1957 годзе завод штучнага валакна будуе для школы ФЗВ трохпавярховы вучэбны корпус на вуліцы Чэлюскінцаў. Школа ФЗВ была пераўтворана спачатку ў тэхнічнае вучылішча № 12, а затым у прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 44.

Жыццё не стаіць на месцы. Рашэннем Урада ў Магілёве пачынаецца будаўніцтва камбіната сінтэтычнага валакна "Лаўсан". Вялізныя маштабы, вялізная і найноўшая па тэхналогіі вытворчасць поліэфірных валокнаў запатрабавала падрыхтоўкі рабочых у два-тры разы больш, чым за мінулыя гады, і на высокім кваліфікацыйным узроўні. І вось прафтэхвучылішча № 44 у 1966 годзе пачынае падрыхтоўку 600 маладых рабочых па прафесіях, падобных па назвах, але з зусім новым зместам, бо вытворчасць поліэфірных валокнаў рэзка адрозніваецца ад вытворчасці віскознага шоўку.

Вучылішча папаўняецца маладымі інжынерамі-хімікамі з ВНУ нашай краіны. Усе майстры вытворчага навучання маюць адукацыю не ніжэйшую за сярэднюю тэхнічную, а ўсе выкладчыкі — вышэйшую.

У 1968 годзе камбінатам сінтэтычнага валакна было закончана будаўніцтва новага комплексу вучылішча, і загадам Камітэта па дзяржаўнай прафесійнай адукацыі БССР і Упраўлення хімічнай прамысловасці СМ БССР вучылішчу была прысвоена назва Магілёўскае гарадское прафесійна-тэхнічнае вучылішча № 98 хімікаў. З гэтага года вучылішча стала рыхтаваць рабочыя кадры для камбіната па асноўных рабочых прафесіях на базе сярэдняй школы.

З 1980 года вучылішча пачало падрыхтоўку моладзі з трохгадовым тэрмінам навучання на базе няпоўнай сярэдняй школы, а таксама працягвала навучанне юнакоў і дзяўчат на базе сярэдняй школы з аднагадовым тэрмінам навучання.

З 1994 года ў сувязі са змяненнем попыту на рынку працы і з некаторым зніжэннем выпуску прадукцыі на МВА "Хімвалакно" вучылішча вымушана было пачаць падрыхтоўку рабочых па новых прафесіях, зусім не ўласцівых хімікам, а менавіта: краўцоў, мастакоў роспісу па дрэве, газаўшчыкоў.

Сёння вучылішча рыхтуе спецыялістаў па наступных прафесіях: слесар-электрык па рамонце і абслугоўванні прамысловага абсталявання; апаратчык, слесар кантрольна-вымяральных прыбораў; лабарант хімічнага аналізу; аператар тэхналагічнага працэсу ў вытворчасці хімвалокнаў; швачка, кравец; мастак роспісу па дрэве; электраманцёр па рамонце і абслугоўванні электраабсталявання.

Для вырашэння гэтых задач вучылішча мае салідную матэрыяльна-тэхнічную базу, бібліятэку, аздараўленчы цэнтр, сталовую, актавую залу, спартыўную залу, інтэрнат на 396 месц і інш.

Задачы ўсебаковага развіцця асобы вырашаюцца не толькі на ўроках, але і ў працэсе шырока разгорнутай пазакласнай работы. Формы і метады яе разнастайныя: лекцыі, КВЗ, дыскатэкі, гутаркі, тэматычныя вечары, дыспуты, сустрэчы з цікавымі людзьмі, экскурсіі, паходы.

У вучылішчы створаны ўмовы для развіцця дараванняў моладзі. Навучэнцы займаюцца ў гуртках харавых спеваў, харэаграфічным, выяўленчага мастацтва, грацыі і пластыкі, фотагуртку. Створаны ансамбль народных інструментаў "Балалайка" і вакальна-інструментальны ансамбль, агітбрыгада, тэатр мод. Удзельнікі мастацкай самадзейнасці дэманструюць сваё майстэрства на вечарах, конкурсах, выступаюць перад рабочымі базавага прадпрыемства.

Дзейнічаюць гурткі тэхнічнай творчасці, дзе з захапленнем займаюцца навучэнцы. Лепшыя іх работы экспануюцца на вучылішчных і абласных выставах тэхнічнай творчасці.

У вучылішчы створана добрая спартыўная база. Працуюць спартыўныя секцыі па ўсіх відах спорту. Традыцыйнымі сталі спаборніцтвы па рухомых гульнях "Стартуюць усе!", удзел у гарадскіх турзлётах.

Не знойдзецца ў вучылішчы навучэнца, які б на працягу навучальнага года не прымаў удзелу ў спартыўных спаборніцтвах, турысцкіх паходах, кросах. Да спартыўна-масавай работы далучыліся амаль усе юнакі і дзяўчаты.

Вучылішча заўсёды славілася сваімі кадрамі інжынерна-педагагічных работнікаў. Першым дырэктарам вучылішча пасляваеннага перыяду быў Мікалай Яўгенавіч Абрамкін, якому ў найскладанейшых умовах пасляваенных гадоў давялося фарміраваць калектыў, наладжваць навучальна-выхаваўчы і вытворчы працэс. У 1966 годзе калектыў вучылішча ўзначаліў Андрэй Пятровіч Туманаў, выдатнік прафтэхадукацыі. На працягу 20 гадоў ён кіраваў установай. У гэты перыяд вучылішча (1970 год) было ўзнагароджана Ганаровай Граматай Вярхоўнага Савета БССР за плённую работу па выхаванні і прафесійнай падрыхтоўцы маладых рабочых.

Вучылішча папаўняецца маладымі кадрамі інжынерна-педагагічных работнікаў, якім жыць і працаваць у новым тысячагоддзі. Акрамя таго, гэта астравок сацыяльнай абароны для абяздоленых дзяцей, дзяцей-сірот, дзяцей з малазабяспечаных сем'яў.

**Тамара КАШЧЭЕВА,**
**дырэктар абласнога вучэбна-метадычнага цэнтра прафесійнай адукацыі Магілёва.**

